*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
12
ЧЭРВЕНЯ
1992 г.
№ 24 (3642)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы —
10 кап.)





Мастак-графік Уладзімір ВІШНЕЎСКІ родам са Случчыны. Біяграфію мае звычайную. Як многія ягоныя калегі вучыўся ў Рэспубліканскай школе мастацтваў, потым на аддзяленні графікі тэатральна-мастацкага інстытута.

Пасля заканчэння служыў у войску. У выставах удзельнічае са студэнцкіх гадоў. Былі ягоныя работы і за мяжою. Як цяпер гавораць, у «блізкім» зарубежжы (Масква, Летува, Польшча), а таксама ў «дальнім» — Італія, ФРГ, ЗША.

Але калі гаворка ідзе пра мастака, радкі анкеты мала што значаць. Трэба бачыць творы, трэба бачыць Уладзіміра за працай. У творчасці — і жыццё, і лёс.

Фота У. ПАНАДЫ.

# Кола Дзён

**У патоку разнапланавай інфармацыі — міжнароднай і ўнутранай, палітычнай і эканамічнай — нельга абмінуць аднаго факта мінулага тыдня. Факт гэты толькі на першы погляд з разраду «дробнакрымінальных» ці выпадковых. Маецца на ўвазе акт вандалізму ў Курапатах. Магчыма, міліцыя і пракуратура знойдуць непасрэдных віноўнікаў (хоць у гэта слаба верыцца). Але ж мемарыял у Курапатах — свайго роду нацыянальная святыня. І адказнасць за яе недатыкальнасць нясуць не толькі мясцовыя, але і самыя высокія ўлады Рэспублікі Беларусь. Размова ідзе не толькі пра матэрыяльныя сродкі, якіх не так і многа трэба, каб забяспечыць парадак і ахову мемарыяльнай мясціны. Размова яшчэ і аб маральным аўтарытэце улады...**

**4 ЧЭРВЕНЯ** Арганізацыйны камітэт па стварэнні грамадска-хрысціянскага аб'яднання «Курапаты» правёў на месцы масавых расстрэлаў сход, у якім прынялі ўдзел родныя і блізкія тых, хто загінуў ад рук сталінскіх катаў у гады рэпрэсій.

**5 ЧЭРВЕНЯ** ў сталіцы Нарвегіі Осла пачаў работу Савет Паўночна-Атлантычнага супрацоўніцтва. Удзел у пасяджэнні Савета прыняў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка.

У Мінску пачалася рэспубліканская канферэнцыя дэпутатаў мясцовых Саветаў. Яе ўдзельнікі выказаліся за неабходнасць ператварэння органаў савецкай улады ў сістэму мясцовага самакіравання — муніцыпалітэты.

У сталіцы Беларусі завяршыла работу камісія па пытаннях, звязаных з правапераемнасцю ў адносінах дзяржаўнай уласнасці, дзяржархіваў, пазык і актываў былога СССР. Прынята пагадненне аб правапераемнасці адносна дзяржаўных архіўных фондаў. На Беларусь павінна быць вернута тое, што ёй належыць гістарычна.

**6 ЧЭРВЕНЯ** ў Віцебску пачалася навуковая канферэнцыя «Грамадства. Дзяржава. Права», арганізаваная мясцовай каардынацыйнай радай партый і палітычных рухаў. У канферэнцыі ўзялі ўдзел філосафы з Мінска, іншых мясцін Беларусі, а таксама з Масквы, прадстаўнікі розных грамадскіх арганізацый — у прыватнасці, БНФ, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі і інш. Абмяркоўваліся праблемы пераходу ад таталітарызму да дэмакратыі ў судакрананні з нацыянальнымі праблемамі.

**7 ЧЭРВЕНЯ** на Беларусь вылецелі кіраўнік фірмы «Сіці Хоўп» П. Моор і каля 50 добраахвотнікаў, якія будуць кантраляваць раздачу персанальных дабрачынных пасылак, выдзеленых амерыканскім урадам у якасці гуманітарнай дапамогі.

**8 ЧЭРВЕНЯ** ў Савеце Міністраў Беларусі прайшла прэс-канферэнцыя, прысвечаная праблемам транспартнага комплексу рэспублікі. Сярод галоўных праблем называліся кепскі стан дарог, недахоп сродкаў (адзін электрапоезд каштуе зараз 35 мільёнаў рублёў, адзін аўтобус «ЛАЗ» — мільён, авіялайнер ТУ-154 — 164 мільёны). Паведамлялася пра распрацоўку Закона аб транспарце.

**9 ЧЭРВЕНЯ** ў Мінску адбылося пасяджэнне савета Міжнароднага кангрэса прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў.

**10 ЧЭРВЕНЯ** апублікаваны палажэнні аб Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, Камітэце па Дзяржаўных прэміях і яго складзе. Узначаліў камітэт народны паэт Беларусі Н. Гілевіч.

**11 ЧЭРВЕНЯ** напярэдадні Дня незалежнасці Расіі Старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Кебіч заявіў, што наша рэспубліка праводзіць «паўнакроўную самастойную палітычную лінію», не грэбуючы пры гэтым добрымі адносінамі з Расіяй.

# РЭФОРМЫ ПАТРАБУЮЦЬ КАРЭКЦІРОЎКІ

## Так лічаць удзельнікі Міжнароднага кангрэса прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў

Установчы сход Міжнароднага кангрэса адбыўся сёлета ў лютым у Маскве. У Савет кангрэса ўвайшлі прадстаўнікі прамысловых саюзаў і асацыяцый, арганізацый прадпрымальнікаў СНД, краін Балтыі, Грузіі. У пасяджэнні Савета МКПП, які сабраўся ў аўторак у Мінску, прынялі ўдзел каля 80 чалавек. Сярод іх — прадстаўнік Балгарыі, а таксама прадстаўнікі Венгрыі і Польшчы (у якасці назіральнікаў).

Вёў пасяджэнне прэзідэнт Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі М. Лаўрыновіч. Гасцей віталі першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі В. Кузняцоў і намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі М. Косцікаў (ён таксама прыняў удзел у дыскусіі).

З дакладам аб дзеяннях прадпрымальнікаў ва ўмовах паглыблення эканамічнага крызісу выступіў прэзідэнт Расійскага саюза прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў А. Вольскі. Ён з'яўляецца арганізатарам-каардынатарам Міжнароднага кангрэса (Дарэчы, пасада гэта выбарная — тэрмінам на адзін год).

У дакладзе прыведзены звесткі, якія яскрава сведчаць аб крызісным стане эканомікі ў краінах Садружнасці, іншых незалежных краінах, што ўваходзілі ў склад СССР. Калі валавы нацыянальны даход летась у сукупнасці знізіўся на 15 працэнтаў, дык за чатыры месяцы гэтага года ён упаў яшчэ на 16 працэнтаў. А да канца года чакаецца яго зніжэнне на 30 працэнтаў. Таваразварот ужо скараціўся на трэць. Самая вялікая праблема — паўсюдны спад вытворчасці. (На Беларусі, як вынікала з выступлення М. Касцікава, падзенне за пяць месяцаў гэтага года ў параўнанні з мінулым склала 12 працэнтаў. Гэта трошкі менш, чым у іншых рэспубліках. Аднак аналіз паказвае, што галоўныя цяжкасці яшчэ наперадзе. Патрабуецца структурная перабудова вытворчасці. (Сёння ў вытворцаў няма стымулаў не толькі для пашыранага, але і для звычайнага ўзнаўлення. Разарваны ўсе гаспадарчыя сувязі, прадпрыемствы перажываюць цяжкі фінансавы шок. Каля 80 працэнтаў насельніцтва атрымліваюць недастатковы даход. Усё гэта, як сказана ў дакладзе, патрабуе неадкладных карэктываў у праграмах рэформ з боку ўрадаў краін СНД. Гэта, падкрэсліў А. Вольскі, зусім не азначае, што трэба вярнуцца да каманднa-адміністрацыйных метадаў у эканоміцы, да цэнтралізацыі і да т. п. Але яўна неабходна мяняць прыярытэты ў правядзенні рэформы. Гэта, у першую чаргу, вытворчасць прадуктаў харчавання, жыллёвае будаўніцтва, захаванне ядра машынабудавання, якое было дастаткова развітым у былым СССР. На думку Вольскага, нельга не ўлічваць, што ў людзей проста не хапае практыкі і звычак жыцця ва ўмовах рынку.

Дарэчы, старшыня саюза прадпрымальнікаў Венгрыі — краіны, якая адна з першых ва Усходняй Еўропе пачала пераход да рынку — Г. Сэлеш у сваім выступленні са спачуваннем гаварыў пра тое, якія цяжкасці непазбежна прыйдзецца прайсці краінам, якія толькі пачынаюць свой шлях да цывілізаванай эканомікі.

І ў дакладзе, і ў дыскусіі дамінавала думка аб тым, што эканоміка павінна быць вышэй за палітыку. Тым не менш, пры выпрацоўцы канкрэтных дакументаў (а менавіта для гэтага, а не дзеля тэарэтычных разваг сабраліся прадпрымальнікі розных краін) удзельнікі прыйшлі да неабходнасці звярнуцца непасрэдна да кіраўнікоў незалежных дзяржаў з тым, каб яны спрыялі ў сваіх дзеяннях нармальным эканамічным адносінам. У рэшце рэшт, незалежнасць і суверэннасць дзяржавы залежыць ад эканамічнага працвітання і свабоднага гандлю.

Савет кангрэса прыняў шэраг рэзалюцый, накіраваных на рашэнне праблем, звязаных з парадкам заключэння і выканання гаспадарчых дагавораў, стварэннем канцэрнаў, урэгуляваннем спрэчак паміж прадпрыемствамі і г. д. Прынята рашэнне стварыць міжнародны цэнтр прававой інфармацыі. Наступны раз савет Міжнароднага кангрэса прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў збярэцца ў Кіеве.

Віталь ТАРАС.

АДГАЛОСКІ

# Прысягаць Беларусі не спяшаюцца

Газеты паведамляюць: расійскія афіцэры пераходзяць на службу ў азербайджанскую армію. Мабыць, там смачнейшы хлеб.

Мы ведаем: тысячы расійскіх афіцэраў не хочуць пакідаць Беларусь. Мабыць, таксама не горкі хлеб ядуць.

У Азербайджане, можна быць упэўненым, расіяне прысягнуць на вернасць новай дзяржаве. У нас — хлеб ядуць, а прысягаць не хочуць. Маўляў, раз ужо прысягалі: Савецкаму Саюзу, Савецкаму ўраду. Міністр абароны Беларусі П. Казлоўскі, дарма што пішацца беларусам, прысягаць Беларусі не спяшаецца. Так сказаць, падае прыклад падначаленым.

Ідзе фарміраванне апарату Міністэрства абароны. Былая верхавіна былой чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі падбірае ў апарат сваіх аднадумцаў. Ёсць пэўныя звесткі, што яна выжывае беларускіх патрыётаў. Ёсць звесткі, што военачальнікі збываюць «налева» тэхніку — аўтамабілі і г. д.

...Украіна заключыла з камандаваннем Аб'яднаных Узброеных Сіл дамову пра тое, каб на радзіму вярнуліся афіцэры, якія нарадзіліся і хочуць служыць на Украіне, і каб выхадцы з Расіі, якія не хочуць прысягаць Украіне, вярнуліся на сваю радзіму. Цяпер, падобна на тое, Украіна пачынае ажыццяўляць дамоўленасць.

Урад Беларусі й падумаць пра такое пагадненне не рашаецца. А тым часам тысячы афіцэраў-беларусаў просяцца на Бацькаўшчыну. Баімся пакрыўдзіць тых, хто не хоча прысягаць Беларусі, баімся пакрыўдзіць Ельцына, ягонага міністра Грачова ды маршала Шапашнікава, які фармальна лічыцца камандуючым войскамі СНД, але ходзіць у свіце Ельцына?

Інфармацыя да роздуму: паны афіцэры й генералы прысягалі на вернасць СССР, а пераемніцай Савецкага Саюза лічыць сябе Расія.

С. А.

# Нам пагражае нашэсце злачынцаў

На мінулым тыдні прэзідэнт Расіі Б. Ельцын заявіў, што яго краіна прыступае да стварэння ўласнай памежнай варты. Дзяржаўная і мытная граніца будзе ўстаноўлена з краінамі Балтыі, Украінаю, Азербайджанам, мытная — з Грузіяй. Прэзідэнт растлумачыў неабходнасць гэтага кроку тым, што праз краіны Сярэдняй Азіі, Малдову і Украіну, якія ўводзяць бязвізавы ўезд і выезд, у Расію пранікаюць злачынцы й разведчыкі.

Не будзем высвятляць, чаму Ельцын не хоча паставіць заслону крымінальнікам ды шпіёнам, якія пранікаюць праз Сярэднюю Азію. Звернем ўвагу на тое, што Расія не мае намеру ўстанаўліваць ані дзяржаўнай, ані мытнай мяжы з Беларуссю.

Намеснік міністра замежных спраў Беларусі Астапенка даў з нагоды заявы Б. Ельцына інтэрв'ю газеце «Известия» (8 чэрвеня), сэнс якога можна звесці да наступнае сентэнцыі: Расія робіць тое, што лічыць патрэбным рабіць.

Віцэ-міністр нібыта не ведае, што пагранічнікі ловяць на беларуска-польскай мяжы не толькі злачынцаў з краін СНД. «Звязда» паведаміла, што каля Берасця былі затрыманыя 16 грамадзян Пакістана. І гэта не адзіны выпадак. Пазней былі злоўлены яшчэ дзве групы пакістанцаў. Прыйшлі яны з Расіі — не з неба зваліліся.

Не выключана, што неўзабаве будуць пастаўлены заставы ды мытні на мяжы Расіі з Эстоніяй, Латвіяй, Украінаю... Колькі ж гэта ўсякай «шушары» рынецца ў «беларускі калідор»? Можна смела прагназаваць: крымінагенная сітуацыя ў Беларусі, і без таго трывожная, стане катастрафічнаю.

Ч-ч.

ПАМЯРКУЕМ

# ПЕРАМОЖАНЫЯ І ПЕРАМОЖЦЫ,

## або Чарговы досціп журналістаў

Новае, што з'явілася на вуліцах нашых гарадоў, — гэта даўжэзныя, прыгожа размаляваныя аўтафуры. Усе ведаюць, што ў такіх прыязджае да нас гуманітарная дапамога. Вось з-за яе і кіпяць сёння грамадскія страсці. Каторыя з прынцыпамі, тыя горда заяўляюць, што гэта самая сапраўдная падачка, міласціна і што браць яе — ганьба. Не да твару, маўляў, вялікаму народу стаяць з працягнутай рукой. Які народ маецца на ўвазе — зразумела.

Не націскаючы на «вялікасць», нашы таксама не ўсе ў захапленні. Тут ужо прэтэнзіі не да самога факта, а да якасці. Ах, старызну прыслалі немцы!.. Ах, непатрэбшчыну!.. А калі «патрэбшчыну», дык тая ўся ў камерцыйных крамах ляжыць.

Што дапамогу раскрадаюць — не сакрэт. Ды не выключана, што яе і здаюць у крамы нямногія са шчаслівчыкаў, каму яна дасталася. Бо прадаць за добрыя грошы куды выгадней, чым спажыць, з'есці. Увогуле, калі без нагнятання, то ніхто ў Беларусі пакуль не галадае і дзіркамі не свеціць. А сем'і, якія жылі цяжка, былі заўсёды, пры самых сытых часах. Сярод іх — мнагадзетныя (колькасць дзяцей ад магчымасці іх пракарміць у нас ніколі не залежала) сем'і, дзе п'е па-чорнаму гаспадар або (радзей) збілася з тропу гаспадыня, ці адзінокія старыя, што засталіся без догляду. Нават пры наяўнасці поўных крам і сацыяльных гарантый нейкая катэгорыя людзей усё роўна будзе хадзіць апушчэнай, і з гэтым няма як змагацца. (Успомнім улюбёны тэлесюжэт нашых карэспандэнтаў з-за мяжы — бяздомныя на лаўках.) Іншая справа, што нам пры Чарнобылі прасіць і браць мела б сэнс толькі лекі ды вітаміны, а яшчэ лепш — тэхналагічныя лініі для іх вырабу. Пакуль не адбылося ўсеагульнай пераарыентацыі ў бок інтарэсаў і патрэб чалавека. На душу насельніцтва наша «спачыўшая ў бозе» дзяржава старалася вырабіць як мага больш зброі. Людзі якраз для таго і служылі, каб яе выраблялі. Хто сказаў, што яны павінны траціць намаганні для абслугі ўласных персон?!

У сувязі з заходнімі «пасылкамі», а таксама з нязменным рытуалам святкавання 9 Мая можна пачуць абураныя галасы: пераможаныя жывуць лепш за пераможцаў! Падумаць, якая несправядлівасць! Які парадокс!.. А па-мойму — гульня слоў, звычайны журналісцкі досціп, цана якому — капейка. Ніякага парадоксу няма, калі ўлічыць, на

# У КАГО ЎЗНЯЛАСЯ РУКА?

**Святое для кожнага сумленнага чалавека месца — Курапаты — спаганена: установлены тут памятны знак у памяць ахвяр сталінскіх масавых рэпрэсій у 1937—1941 гг. невядомымі асобамі знішчаны. Спілавана і колькі дрэў на магілах нявінных людзей, расстраляных энкавэдысцкімі катамі.**

Хто мог усё гэта зрабіць? У каго ўзнялася рука на святыя магілы? У страціўшых розум і сумленне алкашоў? Не падобна. Усё гэта хутчэй нагадвае палітычную акцыю. Мы ведаем, каму курапацкая трагедыя тырчэла косткай у горле, хто вылузваўся са скуры, каб даказаць немагчымае — у Курапатах НКВД ніякіх расстрэлаў не праводзіла (ды і наогул гэтым яно не займалася). Невыпадкова ў свой час неабальшавіцкая газетка «Мы и время», якую рэдагуе сустаршыня палітвыканкома партыі камуністаў Беларусі В. Чыкін, прадастаўляла свае старонкі «матэрыялам» так званай «грамадскай камісіі», што пнулася абвергнуць высновы расследавання дзяржаўнай камісіяй жудасных падзей ва ўрочышчы Курапаты.

Не выключана, што маглі разбурыць памятны знак і «дзеячы» розных філіяў «Памяці», якіх распладзілася нямала на нашай зямлі і якія, праводзячы імперскую палітыку сваіх маскоўскіх гаспадароў, у нішто ставяць святыні Беларусі.

Ну, а нашы новыя «дэмакратычныя» ўлады, як яны ставяцца да таго, што адбылося днямі ў Курапатах? Абыякава. Хіба не ад іх залежала арганізацыя аховы гэтага месца, як тых жа, скажам, помніка Леніна ля Дома ўрада ці Маскоўскіх могілак, дзе кругласутачна стаяць міліцэйскія пасты?

Я лічу, што Курапаты вартыя таго, каб надаць ім годнасць помніка генацыду, як гэта было зроблена ў свой час у Дахау, Бухенвальдзе, Асвенціме, Трэблінцы, дзе правіў свой крывавы баль іншы таталітарны рэжым — нацысцкі.

**М. АПЕЙКА,**
**бібліятэкар,**
**сяброўка хрысціянскай злучнасці «Курапаты».**

# Хроніка Адраджэння

**Нягледзячы на складанае фінансавае становішча, адно з буйнейшых віцебскіх прадпрыемстваў — ВА «Маналіт» — прыняло двухэтапную праграму (1992—1995) адраджэння роднай мовы. Мяркуецца, што ўжо ў бліжэйшым часе маналітаўцы, акрамя вывучэння беларускай мовы, зоймуцца перакладам рэквізітаў аб'яднання і яго філій, заводскай шматтыражкі на беларускую мову.**

●

**У Наваполацку па ініцыятыве тутэйшых літаратараў і пры фінансавай дапамозе гарадскога савета ўрачыста адчынены цэнтр нацыянальнай культуры. Планы яго будучай працы—збіранне бібліятэкі, наладжванне выстаў, метадычная дапамога, інфармаванне і прапаганда беларускай мовы і культуры.**

●

**У Рызе пачаў выходзіць беларускамоўны «Каталіцкі веснік».**

●

**Першы абласны фестываль *ведаў і творчасці*, прымеркаваны да 110-ых угодкаў з дня нараджэння песняроў беларускіх Я. Купалы і Я. Коласа, прайшоў у Віцебскім індустрыяльна-тэхналагічным тэхнікуме. У імпрэзе прынялі ўдзел навучэнцы 23 навучальных устаноў.**

**Юрась СЦЯПАНАЎ.**

●

**У Музеі М. Багдановіча працуе выстава з інтрыгуючай назвай «Жоўты дом». Калі наведаеце выставу, зразумееце, што кожны творца — крыху вар'ят. Інакш як яму злучыцца з гэтай гарэзлівай каханкай — фантазіяй, а дзіця яе — карціна. Хто ж дастойныя бацькі? Гэта маладыя менскія мастакі А. Вацура, С. Дзегцяронак, С. Коваль, А. Міронаў, У. Стальмахоў, У. Скрыганаў. У сакавіку—красавіку іх творы паспяхова экспанаваліся ў Нямеччыне. Пасля мастакі пералічылі 1500 марак у фонд «Дзеці Чарнобыля».**

**Усе зборы ад правядзення выставы пойдуць на патрэбы Дзіцячага гематалагічнага цэнтра ў Менску.**

**Вікторыя МАЛЫШАВА.**

якой прыступцы прагрэсу сталі да вайны і якой крывёй (сваёю) перамаглі. Ніхто, я думаю, не збіраўся ўсё астатняе жыццё бязбедна існаваць на кантрыбуцыю!

Пасля майскіх салютаў вярнуліся пераможцы пад той самы сталінскі бот, да ранейшай сістэмы гаспадарання і, вядома, да ўчыненага вайной рэзруху. Праўда, тое-сёе пераймалі ў краінах Еўропы, падгледзелі, запазычылі (так з'явіўся славуты «козлік»-джып і многае іншае). Існуе думка, што вайна пры ўсіх яе бедах і стратах дала вялікі штуршок эканамічнаму развіццю СССР. Хай сабе вялікі, ды не такі ж, каб скочыць вышэй галавы!

Задумаемся і пра тое, ці роўная мужнасць на полі бою грамадзянскай мужнасці. Перамагчы ворага, можа, і не цяжэй, чым скінуць таталітарны лад і спыніць ваенна-прамысловую машыну на ўласнай зямлі. Ды і хто б тады рашыўся скідаць і спыняць, калі не было **разумення** сітуацыі, не было элементарнай інфармаванасці, а былі толькі пакорлівасць і неверагодная цярплівасць. І нават болей: добраахвотная задуранасць галоў. Ганарыліся. Паэты-франтавікі пісалі натхнёна, з нейкай дзіцячай самаздаволенасцю, як Я. Смелякоў, напрыклад:

> **У нас уже стало обычным,**
> **Как будто дышать или пить,**
> **О собственном нашем**
> **величьи**
> **С *газетных страниц***
> **говорить...**

Вайна мінулася, а міфы засталіся. Зноў упрагліся слаўныя воіны і пацягнулі, надрываючыся, «савецкі воз» у светлае будучае...

Мабыць, перад Богам усе ветэраны роўныя — і хто перайшоў крывавае поле вайны, і хто не ваяваўшы паспеў напрацавацца і нагаравацца. Перад Богам, ды не перад сацыялістычнымі дагматамі. А як жа: адзіны козыр застаўся — перамога...

**Г. К.**

# РАШЭННЕ ПРЫМЕМ ПАСЛЯ

## Нататкі з апошняга з'езда савецкіх пісьменнікаў

IX з'езду СП СССР папярэднічала беспрэцэдэнтная групавая, палітычная і *маёмасная, барацьба*, эпіцэнтр якой знаходзіўся ў Маскве. Пра ўсе перыпетыі гэтай барацьбы — ад спробы *пасля путчу «захапіць»* Саюз пісьменнікаў РСФСР да перамогі апошняга і перапалак вакол маючага адбыцца з'езда — *расказаць тут немагчыма*, не дазваляе газетная плошча. Абмяжуемся канстатацыяй вынікаў. К таму часу раскол расійскай пісьменніцкай арганізацыі быў афармлены афіцыйна, расколаты таксама Маскоўская і С.-Пецярбургская суполкі. Трэшчына пайшла яшчэ далей па колісь маналітным гмаху савецкай літаратуры: напярэдадні «ЛГ» змясціла адкрыты ліст да дэлегатаў, падпісаны вядомымі пісьменнікамі з рэспублік (у тым ліку В. Быкавым і Р. Барадуліным), дзе выказана сумненне наконт законнасці аргкамітэта і прапанавана байкатаваць з'езд. Натуральна, супраціўны бок у асобах Ю. Бондарава, В. Распуціна і прыпрэжаных прадстаўнікоў з рэспубліканскіх саюзаў адказаў лістом на ліст. Страсці кіпелі, між тым прызначаная дата, 2 чэрвеня, няўхільна набліжалася. Што было рабіць у такіх абставінах абраным на агульных сходах дэлегацыям?

Для многіх пісьменніцкіх саюзаў былога СССР — Літвы, Латвіі, Эстоніі, Грузіі, Малдовы — пытання наогул не існавала: яны ўжо афіцыйна выйшлі з СП СССР. З Арменіі проста не прыехалі. Украіна, вызначыўшы сваю пазіцыю дома, замест вялікай дэлегацыі прыслала дзесяць назіральнікаў. Засталіся сярэднеазіяцкія рэспублікі, шматлікія расійскія аўтаноміі і... Беларусь. Нас, вядома, да з'езда ніхто і не падумаў сабраць, каб вызначыць пазіцыю і лінію паводзін. Кожны з дэлегатаў сам вырашаў, ехаць ці не, кіруючыся выключна ўласнымі перакананнямі і ўласным разуменнем сітуацыі. Найбольш асцярожныя і дальнабачныя палічылі за лепшае назіраць за падзеямі збоку, таму з сарака нашых дэлегатаў у Маскву прыбыло 26. Размясціліся ў «Расіі» і ў належны час уроскід паселі ў невялікай зале тэатра-студыі кінаакцёра, што побач з ЦДЛ.

Удзельнікі папярэдніх пісьменніцкіх форумаў успамінаюць радасны, святочны гул, які перад адкрыццём панаваў у Вялікім крамлёўскім палацы. Цяпер ні гулу, ні ззяючых агнямі люстраў, ні прыемнага творчаму сэрцу пачуцця абранасці. Без змен засталася толькі дзяжурная працэдура выбараў прэзідыума, сакратарыята, мандатнай, рэдакцыйнай і падліковай камісій (апошняй лічыць нічога не давялося), анахранізм якіх, працэдуры і органаў, быў добра відзён ужо на мінулым з'ездзе СП БССР.

У прэзідыуме побач з аксакаламі, каторыя прадстаўлялі нацыянальныя літаратуры і дзесяць, і дваццаць год назад, знайшлося месца і для пасівелай «моладзі». Прэсы няшмат, ды і тая цікуе, каб вышукаць якісь негатыў. (Чарговыя «Итоги» зусім прамаўчалі — прыём знаёмы.) Праверка мандатаў і дакументаў — самая строгая (кажуць, з-за боязі правакацый). Старшыню аргкамітэта Цімура Пулатава суправаджаюць трое целаахоўнікаў. Сярод прысутных вылучаюцца малайцаватыя мужчыны ў чорных формах вайсковага ўзору (дэлегаты? госці?). Па-над усімі ўзвышаецца *імпазантная постаць сп. Бабурына*, яго пазнаюць у твар, азіраюцца. У фае прадаецца мноства выданняў адпаведнага напрамку і зборнічак вершаў «святога мучаніка» А. Лук'янава. Вось, бадай, і ўсё, што трэба для агульнага ўражання. Пяройдзем да павесткі і ходу з'езда.

Вынікі аўдытарскай праверкі фінансавых спраў былога СП СССР аказаліся на справе вялай публіцыстыкай і пераказам ужо вядомых грамадскасці фактаў пра бясконцыя паездкі Еўтушэнкі за мяжу за кошт агульнай пісьменніцкай касы. Такімі ж расплывістымі былі даклады рэвізійнай і мандатнай камісій. Другім пунктам значылася дыскусія сфармуляваная наступным чынам: «Літаратура ў сучасным грамадстве *і сацыяльная абароненасць* пісьменнікаў». Кіраўнік казахскай дэлегацыі прапанаваў перанесці дыскусію на *апошні дзень, прадбачачы*, што яна не туды можа завесці, але прапанова не прайшла пры галасаванні. Яшчэ не ўся пара была выпушчана, той-сёй паранейшаму рваўся ў бой. У выніку ўвесь прыбыўшы здалёку кворум —490 з 700— мусіў выслухваць то рэзкія выпады ў адрас дэмакратаў і прэсы, то апакаліптычныя енкі тыпу «Расія стаіць на табурэце з пятлёй на шыі», то вернападданыя прызнанні аўтаномій у любові да сваёй вялікай метраполіі. На шчасце, спробы распаліць сябе і залу астуджваліся нацыяналамі. Пасля выступлення С. Золатцава, прынамсі, Мустай Карым заклікаў да большай стрыманасці тону, адвочныя намеры ўцягнуць нас у свару асудзілі і іншыя.

На другі дзень, як толькі дайшлі да галоўнага — статута і дэкларацыі новага саюза, з'езд забуксаваў. Не было аднадушша, мелі месца *арганізацыйныя збоі*. Пры абмеркаванні было адзначана, што нам прапаноўваецца старая структура — з моцным *цэнтрам і статыстамі*. Украінскай дэлегацыі нарэшце далі слова, і А. Лупій пад крыкі з залы «бандэраўцы!» зачытаў сваю заяву. Беларусы таксама паспелі зарыентавацца і выпрацавалі, так ні разу і не сабраўшыся, заяву наступнага зместу.

**«Дэлегацыя наша прыбыла на з'езд далёка не ў поўным складзе, бо думкі адносна арганізацыйнай структуры Супольнасці пісьменніцкіх саюзаў раздзяліліся. Тыя нашы таварышы, якія не прыехалі на з'езд, выказвалі сур'ёзныя апасенні, што на ім будзе зроблена спроба адраджэння унітарнага праўлення.**

**Мы *спадзяваліся, што* лепей зарыентуемся па ходу з'езда. Але праясніць сітуацыю належным чынам не ўдаецца. Мы не пачулі нават пэўнай інфармацыі пра гаспадарча-фінансавы стан СП. Праект Статута Супольнасці мае на ўвазе выбранне таго ж першага сакратара і сакратароў пры ім. Інстытут сустаршынь можа аказацца толькі дэкаратыўнай шырмай, якой з'яўляўся раней так званы «вялікі сакратарыят». Па-другое, на Беларусі створаны і афіцыйна зарэгістраваны самастойны, незалежны літаратурны фонд, а праекты дакументаў IX з'езда прапаноўваюць *пазіцыю* зусім іншую.**

**Дакументы гэтыя як належыць не абмяркоўваліся членамі незалежнага Саюза пісьменнікаў Беларусі. Мы асабліва падкрэсліваем тут пытанні ўтварэння Супольнасці пісьменніцкіх саюзаў.**

**У сувязі са сказаным члены беларускай дэлегацыі заяўляюць: ад удзелу ў галасаванні па фарміраванні Супольнасці мы ўстрымліваемся. Што ж датычыць Літаратурнага фонду, то мы выступаем за яго самастойнасць і незалежнасць.**

**Наша пазіцыя адносна Супольнасці пісьменніцкіх саюзаў будзе вызначана пасля абмеркавання пытання ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, пра што мы зможам паведаміць дадаткова».**

На з'ездзе шмат было іншых заяў, якія тычыліся ў асноўным *уласна расійскіх праблем*. Былі выпадкі, калі выступаючага зганялі з трыбуны «ввиду нежелательного *направления мысли*», як гэта здарылася з прадстаўніком СРП (Саюза расійскіх пісьменнікаў). Падчас і самі аратары давалі падставы для не вельмі далікатнага абыходжання поўным неразуменнем задач з'езда і свайго выхаду на трыбуну. Гучалі выступленні выразна палітычнага ўхілу — пісьменніка з Крыма, да прыкладу.

На трэці дзень мэта была дасягнута: пачалася цырымонія падпісання кіраўнікамі дэлегацыі дэкларацыі аб стварэнні Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў. Цімур Пулатаў, дружна абраны перад тым старшынёй, паводзіў сябе ў досыць *аперэтачных абставінах* (аддадзім яму належнае) стрымана і з годнасцю. У зацятай вайне двух лагераў, *можна сказаць дзвюх партый*— Еўтушэнкі і Бондарава — менавіта ён, рускамоўны ўзбекскі празаік, адыграў досыць істотную ролю (толькі невядома, ці к дабру). Час пакажа, наколькі жыццяздольная і трывалая новая пісьменніцкая супольнасць, аднак процістаянне сіл на тым не зжыло сябе. Пад пытаннем застаецца лёс маёмасці былога СП СССР. Ужо створаная і зарэгістраваная садружнасць пісьменнікаў, па ўсім бачна, не прызнае правамоцнасці самога з'езда і ўсіх яго рашэнняў.

Як бы далей ні павярнуліся падзеі — пераносіць варожасць на айчынную глебу, думаць пра новы саюз у нас — рэч немагчымая, недаравальная. Гэта азначала б ахвяраваць адраджэнскімі памкненнямі ва ўгоду палітычнай кан'юнктуры ці з-за светапоглядных разыходжанняў. Адзінае, чым можна выратаваць арганізацыю ад расколу — стаць сапраўды незалежнымі (з умовай, што нам будзе выдзелена наша доля ў маючым быць раздзеле маёмасці). А ўжо з кім пасля сябраваць, з кім мець творчыя кантакты— асабістая справа кожнага. Культурная, чалавечая прастора, як слушна сказаў адзін з дэлегатаў, куды важней эканамічнай...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**наш спецкар.**

ЧАС І МЫ

# Што ж мы гарантуем?

**Калі вы едзеце на аўтамабілі, вам не бывае страшна! Дапусцім, на хуткасці 100 кіламетраў у гадзіну ў вашай машыны заклініць руль... «Што за глупства!—усклікне нецярплівы чытач. — На тое яна і машына, каб працаваць надзейна! Пра нешта ж думалі канструктары, калі яе праектавалі, вытворцы, калі яе рабілі!» Але пры бліжэйшай адлегласці высвятляецца, што тэорыя—адно, а практыка—зусім іншае. Высокая якасць нямецкіх «мерседэсаў» ці японскіх «таёт» не ўзнікае сама па сабе, з нічога. Гэта перш за ўсё вынік упартай працы тысяч людзей і магутнай матэрыяльнай базы, якая забяспечвае працэс выпрабаванняў і даводкі машын. Як у нас на Беларусі сёння справы з якасцю новай тэхнікі, ці здольная яна канкурыраваць на сусветным рынку, забяспечваючы пры гэтым прымальны ўзровень бяспекі людзей! Цэлы шэраг праблем у гэтай галіне, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння, закранаюцца ў артыкуле, які прапаноўваецца вашай увазе.**

Вядома, што машынабудаванне мае даволі вялікую вагу ў валавым прадукце рэспублікі. Тым не менш, навуковае суправаджэнне вытворчасці машын недастаткова забяспечваецца ні ў фінансавых, ні ў даследчых планах рэспубліканскіх НДІ. Уся бяда ў тым, што 80 працэнтаў машынабудаўнічых заводаў былі падпарадкаваны саюзным міністэрствам, якія вялі сваю манапольную палітыку. Некалькі мізэрных галіновых ПКТІ або філіялаў НДІ, тры інстытуты АН Беларусі і два навучальныя інстытуты з мікраскапічнымі лабараторыямі — вось наш навукова-тэхнічны патэнцыял.

Парадаксальна, але нават гэтыя падраздзяленні вымушаны шукаць дагаворныя работы за межамі рэспублікі. У апошнія гады фінансаваць асабліва актуальныя праблемы навукі пачалі па рэспубліканскіх праграмах.

Адна такая праграма закончана ў 1990 годзе. Прыцягнула яна 38 дактароў навук, каля 400 кандыдатаў і больш за 600 навуковых супрацоўнікаў. Выдаткі на зарплату склалі каля 7 мільёнаў рублёў. Ну і што? А бяда ў тым, што рабілі яе людзі па прынцыпе хто на што здольны, а аб'ядноўвала іх толькі агульная назва праграмы. Больш таго, пад актуальныя праблемы пры жаданні можна дадаць блізкія і малазначныя работы, якія акажуцца баластнымі.

У тэхніцы сёння трэба ўздымаць, перш за ўсё, тэхнічны ўзровень галін, якія рыхтуюць камплектуючыя вырабы: гумоватэхнічныя, гідраўлічныя, зубчатыя колы, падшыпнікі, электратэхнічныя элементы і яшчэ больш дробныя дэталі. Іх узровень, у першую чаргу, вызначае якасць машын.

Даўней у гарадах Беларусі тыя з рамеснікаў, хто выпускаў якасную прадукцыю, былі аб'яднаны ў цэхі. Тыя, хто не ўмеў гарантаваць якасць — партачы,— у цэхі не прымаліся, вырабы іх на ярмарках купляліся танней і ў апошнюю чаргу. Як ні горка ўсведамляць, але такое, прыкладна, становішча ў нас сёння на сусветным рынку.

Апраўданне, што мы працуем на ўнутраны рынак, для сябе, не праходзіць. Справа ў тым, што згодна дадзеным Еўрапейскай арганізацыі па кантролі якасці, прыкладна дзесяць працэнтаў нацыянальнага прадукту прамыслова развітых краін губляецца з-за недастатковай якасці матэрыялаў і вырабаў. Нашы эканамісты не рашыліся яшчэ падлічыць страты ад нізкай якасці тэхнікі. Можна толькі арыенціровачна прыкінуць, што мы губляем не менш за пятнаццаць працэнтаў. Страты ад браку тавараў народнага ўжытку дадаюць яшчэ працэнтаў пяць. У выніку атрымліваем каласальныя ўбыткі. Успомніце, як пацеюць усю зіму мурзатыя трактарысты над нашай сельгастэхнікай. Альбо яшчэ. Кожны мінчанін, уключаючы і немаўля, заносіў штогод у гадзіннікавую майстэрню адзін рубель (цяпер ужо ў 10 разоў больш).

А колькі ў нас рамонтных заводаў, якія рэанімiруюць хворую тэхніку. У эксплуатацыі, так лічыць увесь свет, яна прыносіць толькі страты і стварае аварыйныя сітуацыі. Не сакрэт жа, што цеплавозы, трактары, аўтамабілі і нават самалёты мы рамантуем збольшага, абавязкова датэрмінова.

Выдаткі на навуку ў рэспубліцы складаюць паўпрацэнта ад валавога нацыянальнага прадукта, у той час як вядучыя капіталістычныя краіны асігнуюць на гэта тры і нават пяць працэнтаў. Дзякуючы гэтаму ў ЗША, ФРГ і Японіі доля прададзенага на рынку прадукта складае пятую частку ад выпускаемага, у нас — да трох працэнтаў. Дарэчы, сённяшні капіталіст атрымлівае прыбытак не ад прыбавачнага кошту — яго ён аддае рабочым і дзяржаве, а ад навацыі вытворчасці, якую забяспечвае навука. Што ж нам рабіць?

Відавочна, што стварэнне навукаёмістых тэхналогій і прагрэсіўных канструкцый машын патрабуе ўсебаковых выпрабаванняў канчатковай прадукцыі. Існуючая сёння дзяржаўная сістэма гарантыі якасці — адна з прычын адсталасці. Нельга сказаць, што яе не ўдасканальвалі. Якіх толькі ні было камісій па якасці! А колькі яны выпілі за знакаміты «знак якасці»! Гарантыі якасці няма, як і не было. Асноўныя заганы нашай тэхнікі: вялікая вага, шум вібрацыі, перарасход энергіі і нізкая даўгавечнасць — сталі традыцыйнымі.

Абсурднасць сітуацыі яшчэ ў тым, што большасць першых беспрацоўных маюць тэхнічную вышэйшую адукацыю. Што, мы іх кепска рыхтавалі? Што, зярняты навукі падалі на камень? А што зрабіў урад?

Гадоў пяць назад СМ БССР прыняў пастанову аб павышэнні якасці і мерапрыемствах па зніжэнні шуму і вібрацый машын. Прадугледжваліся асігнаванні на набыццё навейшага вымяральнага абсталявання, падрыхтоўку лекцыйнага курсу і матэрыяльнай базы для павышэння якасці машын і зніжэння іх шуму. Мінула пяцігодка, а якасць пагаршаецца, дадзеныя па выпускаемаму нашай тэхнікай шуму па-ранейшаму засакрэчаны... для нас. Акрамя таго, рэспубліка дагэтуль не мае нават аднаго камплекта сучаснай шумавібравымяральнай апаратуры і шумазаглушанай камеры.

У АН Беларусі біёлагі склалі праграму па ахове прыроды і паляпшэнні асяроддзя пражывання людзей. Ужо выдзелена мэтавае фінансаванне і сёе-тое робіцца. Аднак усё яшчэ спрацоўвае інерцыя старога мыслення. Мы другі год дамагаемся дапаўнення гэтай праграмы раздзелам акустычны камфорт тэхнікі і не здолелі даказаць навуковаму кіраўніку яго карыснасць. Важнейшыя раздзелы праграмы для чалавека па торфе, вадзе, паветры. Падобна, што нам не хапае экалагічнага, а біёлагам інжынернага зроку. Альбо тут знакамітае месніцтва?

Пра асігнаванні на навуку ў Дзяржплане лепш не ўспамінаць. А як быць з выпрабаваннямі машын? Большасць з іх выпрабоўвалася за межамі рэспублік і не лепшым чынам. Вучоныя ў гэтых работах выступаюць як выканаўцы, а не партнёры.

Успомніце сумна вядомы кормаўборачны камбайн КСК-100. Ад вучоных патрабавалі паляпшаць асобныя вузлы і добра плацілі. У выніку грошай, выдаткаваных на навуку, з лішкам хапіла б на стварэнне новай машыны. Але задачу ставілі заводскія інжынеры. Больш за тое, заводскія кіраўнікі ў справаздачах ахвотна называюць свае машыны адпаведнымі ўзроўню лепшых замежных аналагаў. Што, іх пачалі купляць нароўні з іншымі або без дапрацоўкі прымаюць пасрэдніцкія фірмы? Не і не. Гэта мы прадаўжаем размовы для прапаганды. Незразумела таксама, хто гэта вызначыў? За мяжой дзеля гэтай мэты ёсць сістэма выпрабавальных цэнтраў, якія бяруць прадукцыю са склада і правяраюць на адпаведнасць яе патрабаванням сертыфікацыі. Ёсць спецыяльнае Генеральнае пагадненне па тарыфах і гандлі (ГАТТ). Нас, дарэчы, туды абяцалі прыняць толькі назіральнікамі і не спяшаюцца пакуль што.

Што датычыць рэспублікі, то ў яе няма органа, які вызначае якасць тэхнікі, няма норм, методык, абсталявання і, асноўнае, навучаных для такой работы кадраў. Уявіце сабе, што ў нас з'явіліся грошы, прытым, колькі хочаш. Выпускаць надзейную тэхніку, аднак, мы не зможам, пакуль не навучымся хутка яе выпрабоўваць і адбракоўваць непрыгодныя вузлы. Гэта будзе чарговы тормаз нашага прагрэсу.

Настаў час падумаць пра стварэнне рэспубліканскага выпрабавальнага палігона. За мяжой іх дзесяткі ў кожнай краіне. У нас жа не больш за дзесятак на ўвесь СНД. На долю Беларусі даводзіцца адна машынавыпрабавальная станцыя — МВС Заходняя, якая выпрабоўвае сельгастэхніку. Ангары яе не запоўнены і на трэць, прыбораў — кот наплакаў. Трэба, у першую чаргу, сучаснае абсталяванне, вымяральныя прыборы, элементы аўтаматыкі, інфармацыйная база. Усё гэта, акрамя прыбораў, можна нашкрэбсці ў рэспубліцы. Але павінна быць мэтанакіраваная праграма павышэння якасці і распрацоўкі метадаў яе кантролю.

Аднаму заводу стварыць сучасную выпрабавальную станцыю ў кароткі тэрмін не па сілах. Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі (БНПА аб'ядноўвае больш за 70 дзяржпрадпрыемстваў) гэта будзе зрабіць лягчэй, а рэспубліцы яшчэ лягчэй. Пры гэтым не трэба выпрабоўваць гатовыя агрэгаты. Дастаткова ведаць рэсурс адказных вузлавых дэталяў. У гэтым плане выпрабавальны цэнтр будзе універсальным. Акрамя стэндаў, патрэбны універсальныя машыны для кантролю якасці металу на разрыў, кручэнне, удар, знос і г. д. Ніводны з нашых заводаў поўнага камплекту такога абсталявання не мае. А між тым вопыт паказвае, што без выпрабавальнай тэхнікі не асвоіць хутка новыя канструкцыі. У абароннай і авіякасмічнай прамысловасці ў гэтым не сумняваліся і ўкладалі грошы. Вынікам некалі радаваліся ўсе. Тое ж самае трэба зрабіць з астатняй тэхнікай. У адваротным выпадку мы яшчэ доўга не зможам прадаваць яе за мяжой. Пасля правядзення выпрабаванняў і наяўнасці гарантыі пачынаць продаж можна ўроссып: падшыпнікі, зубчатыя колы, рысоры, амартызатары, крапеж і іншыя дэталі.



Адзін з пунктаў тэхнічнага забеспячэння. Фота А. ШАБЛЮКА.

У розных дакументах можна сустрэць параўнальную ацэнку нашай тэхнікі з лепшымі замежнымі ўзорамі, так званую карту тэхнічнага ўзроўню. Бессэнсоўнасць такіх дакументаў, якія ацэньваюць выраб па адным-двух параметрах, відавочная. Тым не менш, пры афармленні дзяржзаказу для праграм гэта асноватворны дакумент.

У сувязі з дэфіцытам аўтазапчастак кааператары наладжваюць іх масавую вытворчасць. Для гарантыі якасці патрэбен сертыфікат, які таксама патрабуе выпрабаванняў. Без гэтага пакупніку трэба настройвацца на асабістую адказнасць за надзейнасць сваёй тэхнікі.

У апошні час энергічныя людзі па льготнай пошліне прывозяць масу патрыманых аўтамабіляў. Арганізуюцца нават кааператывы па зборцы легкавых і грузавых аўтамабіляў з замежнага аўталому.

(Працяг на стар. 12).

выразна выявілася і жыццёвая пазіцыя Тамары Чабан: пачынаць заўсёды з сябе, слухацца ўласнага сумлення, помніць пра асабістую віну...

Адчуванне віны і адказнасці за ўсё, што адбылося і адбываецца, на маю думку, давала ёй маральнае права кінуць горкі папрок паэтам свайго пакалення: «...Гэта пакаленне ў цэлым, за выключэннем А. Разанава, не стала прынцыпова новай з'явай у літаратуры, не выпрацавала свайго мастацкага стылю, накірунку» («Дружба народов», 1991, № 4).

Аўтар артыкула не адасабляла сябе ад равеснікаў - паэтаў, хоць, як ведаем, на паэтычны Алімп не прэтэндавала. Яна бачыла больш шырокую еднасць, знітаванасць з імі — праз агульнасць лёсу. «Мы адчувалі своеасаблівы «гістарычны абавязак» — жыць і быць шчаслівымі — за сябе і «за таго хлопца», за загубленых у сталінскіх турмах і лагерах дзядоў, за загінуўшых на вайне бацькоў, за спакутаваных, бяспраўных, бяспашпартных маці-калгасніц, якія выправілі нас у сталічныя ВНУ — хай хоць дзеці пажывуць па-чалавечы...», — такую характарыстыку дала яна свайму пакаленню, народжанаму для шчаслівага жыцця пры камунізме.

Тамара Чабан шмат пісала пра творчасць равеснікаў. Рэцэнзіі на кнігі Я. Янішчыц, А. Разанава, В. Коўтун, Р. Баравіковай, Н. Мацяш, В. Іпатавай, Г. Каржанеўскай, М. Рудкоўскага, Л. Філімонавай, В. Хамчук, У. Някляева, С. Законнікава... Аналітычна-праблемныя артыкулы, агляды паэзіі. Глыбока разумеючы творчасць прадстаўнікоў свайго пакалення, будучы для іх па сутнасці «сваім» крытыкам, яна тым не менш жыла ў шырокім свеце літаратуры. Вяршыні нацыянальнай класікі — Максім Багдановіч і Янка Купала, старэйшыя сучаснікі — А. Куляшоў, А. Пысін, П. Панчанка, Максім Танк і У. Караткевіч, Р. Барадулін, А. Вярцінскі, Д. Бічэль-Загнетава, А. Лойка, А. Грачанікаў, П. Макаль, Я. Сіпакоў... да іх творчасці неаднойчы яна звярталася як даследчык і крытык. У полі яе зроку нязменна была маладая паэзія. Прытым заўважала Тамара Чабан аўтараў-пачаткоўцаў ад першых публікацый. Радуючыся кожнаму ўдаламу радку, нязбітаму вобразу, цікаваму павароту думкі (нават калі верш у цэлым і не надта ўдаваўся маладому аўтару), яна не паступалася патрабавальнасцю. Надзейным компасам была для яе «трапяткая, чуйная любоў і беражлівасць да паэзіі, да кожнага яе маленькага зялёнага калíўца».

Свет паэзіі, як і ўвогуле літаратуры, для Тамары Чабан не абмяжоўваўся творамі беларускіх пісьменнікаў. Ён быў багатым і разнастайным, увесь час разрастаўся, пашыраўся. Вярталіся ў літаратуру імёны, адкрывалася магчымасць азнаёміцца з творчасцю, і станавіліся ёй блізкім З. Гіпіус і М. Гумілёў, Н. Арсеннева і А. Салавей (пра апошніх, прадстаўнікоў беларускай эміграцыі, Тамара збіралася напісаць).

Беларускую літаратуру даследчыца разглядала ў кантэксце суседніх, рускай класічнай і савецкай, украінскай... сусветнай. Шматлікія паралелі-параўнанні, што сустракаюцца ў яе працах, выглядаюць натуральнымі і да месца, бо за імі стаяць глыбокія веды, сур'ёзны роздум, дасканалае адчуванне паэтычнага слова, разуменне законаў мастацтва. Вось, да прыкладу, у якім акружэнні паўстае «Вянок» М. Багдановіча: «Аднак у аснову «Вянка» пакладзены не біяграфічны прынцып, як, напрыклад, у паэтычных кнігах А. Блока або Г. Ахматавай, хоць нізка «Каханне і смерць» і нагадвае лірычны дзённік. Не галоўнае тут і ідэйна-тэматычнае адзінства, як, напрыклад, у аднайменнай паэтычнай кнізе В. Брусава, альбо адзінства месца і часу, гісторыка - этнаграфічнага каларыту, як у «Падарожжы на Гарц» Гейнэ, «Крымскіх санетах» Міцкевіча або «Шляху канквістадораў» М. Гумілёва».

«Космас «Вянка» («Полымя», 1991, № 12) — адзін з апошніх яе артыкулаў, па сутнасці лебядзіная песня даследчыцы і крытыка, якая ў травені адзначыла б сваё саракагоддзе. Аднак і ў першай манаграфічнай працы, кнізе «Крылы рамантыкі: Рамантычныя тэндэнцыі ў сучаснай беларускай паэзіі» (1982 г.) заўважаецца аналітызм мыслення, тонкае разуменне паэтычнага вобраза, «упісанасць» беларускай літаратуры ў сучасны літаратурны працэс, у кантэкст стагоддзя.

У артыкуле «Незапатрабаваная паэзія» крытык назвала прозвішчы заўчасна, у самым росквіце творчых і чалавечых магчымасцей адышоўшых паэтаў. Анатоль СЕРБАНТОВІЧ, Сымон БЛАТУН, Уладзімір ЛІСІЦЫН, Леанід ЯКУБОВІЧ, Рыгор СЕМАШКЕВІЧ, Яўгенія ЯНІШЧЫЦ. Наступнае прозвішча, упісанае ў гэты трагічны, страшны мартыралог «шчаслівага» пакалення, яе. Тамара ЧАБАН.

**Таіса ГРАМАДЧАНКА.**

---

цяньку, пад грушай-касцянкай, каля свірна, свае вершы. Чытаў пра раніцу ў нядзелю пра жніво, пра падгляд пчол. Жанкі толькі божкалі і дзівіліся: «От бо чалавек! Трэба ж гэтак складна пра ўсё напісаць!»

Сёння, каб узяць што пачытаць з навінак мастацкай літаратуры, таму ж Вадзіму Адамавічу трэба ехаць за восем кіламетраў у вёску Мялешкі — там сельская бібліятэка. І ездзіць, бо не разгубіў цікавасці да прозы і паэзіі, хоць аднавяскоўцы задавальняюцца тэлевізарам ды газетай.

Надвячоркам я развітваўся з былой краінай Ідыліяй з тугой і смуткам, параўноўваючы ў думках вёску Ганькі-гарэзы з сённяшняй абязлюдзелай, адміраючай вёскай. Па ледзь прыкметнай у прыцемках сцежцы-дарожцы пайшоў у бок Барэцкага лесу. Насустрач неўзабаве затарахцелі калёсы, у іх сядзелі двое мужчын пажылога ўзросту. Прывіталіся, прыпынілі коніка. Цікаўлюся ў ездавога, ці не ліпнікоўскія яны будуць.

— З Таліцы, мы суседняй вёскі...

— А што ж едзеце па азіміне? Хлеб жа...

— Усе ездзяць, вунь колькі слядоў ад машын і трактароў...

Што тут скажаш? Зямля — калгасная, а значыць нічыя, і яны на ёй — падзёншчыкі з батрацкай псіхалогіяй, што прывівалася дзесяцігоддзямі. Зямлю гэтую вакол Ліпнікаў прыязджаюць араць, а таксама сеяць, убіраць ураджай механізатары з цэнтральнай сядзібы калгаса. Туды адсюль — восем кіламетраў. Адрабілі сваё — і назад. А тутэйшыя жыхары для іх — абарыгены. Усяго і зямлі ў іх, што на сотках. Каб заараць, бульбу пасеяць, трэба ісці на ферму ў вёску Таліца (там — коні), знімаць шапку перад даглядчыкамі-пастухамі, паказваць рыльца паўлітэркі.

Калі б усталі з зямлі, уваскрэслі землякі Ганькі, тыя шчырыя і гаспадарлівыя аднаасобнікі нэпманаўскіх гадоў, паглядзелі на гэтае запусценне — за галовы хапіліся б ад крыўды і гневу.

Цяпер, калі паміж героямі аповесці «Пачакай, затрымайся» і сённяшнімі жыхарамі Ліпнікаў лягла такая неабсяжная прастора часу, калі сабралася столькі каменняў на той дарозе, якая іх развяла і раз'яднала, яшчэ больш выразнай робіцца антысялянская палітыка партыі, правадыры якой так доўга называлі яе «розумам, гонарам і сумленнем эпохі».

**Міхаіл ТЫЧЫНА.**

Слуцкі раён.

---

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# Вершы Ларысы Геніюш: першавыданне—у Лондане

На вокладцы гэтай невялічкай кніжкі, амаль брашуры (усяго 45 старонак), значыцца: Ларыса Геніюш. Вершы. Рукапісны зборнік з 1945—47 гг. Ніжэй — факсіміле лёгкага і імклівага накіда пяром, як з дзявочага сшытка, — кяточная віньетка і словы на лаціне: «Spiritus flat ubi vult», «Дух вее дзе хоча». Унізе зноў друкаванае: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны, Лёндан 1992.

Акрамя радка «Прыляцелі чайкі на валтаўскі бераг» амаль нічога не нагадвае, што вершы пісаліся ў Празе. Месца іх стварэння адчуваецца хутчэй як «недзе далёка ад Беларусі». Аднак ці не ў кожным вершы — мысленнае вяртанне на далёкую Бацькаўшчыну, і чуваць і далёкасць нёманскіх берагоў, і журба, і замілаванне паэткі. Пануючы настрой вершаў — боль ад страты родных, смутак, адчай, а надзея — амаль гасне. Паэтка быццам прадчувае свой гаротны лёс: у 1948 г. разам з мужам яе пазбавілі чэхаслаўацкага грамадзянства, дэпартавалі ў СССР, Вярхоўны суд БССР асудзіў абодвух на 25 гадоў сібірскіх лагераў. І нават у 1956 г., пасля вяртання на Беларусь, Геніюшы не былі рэабілітаваны.

Лонданскае выданне пражскіх пасляваенных вершаў Л. Геніюш істотна пашырае нашы звесткі аб яе творчай спадчыне. Першая выдадзеная на радзіме кніга — «Невадам з Нёмана» (1967) — уключыла некаторыя вершы чэшскай пары 1935—43 гг. і пасллагерных часоў (1956—66 гг.). Такім чынам, у зборніку — відавочная лакуна, брэш, зіянне. Найбольш поўны на сёння зборнік — «Белы сон» (1990) — аб'яднаў «Невадам з Нёмана», кнігу 1982 г. «На чабары настоена», вершы для дзяцей, а таксама тры падборкі: «Вершы розных гадоў», «З пасмяротных публікацый» і «З рукапіснай спадчыны». Але і сярод іх няма вершаў 1945—47гг. Між тым у творчасці Л. Геніюш гэта асобная і непаўторная ста-



ронка: тая вяршыня трагізму, на якой нельга жыць-трываць.

Выданне падрыхтаваў і напісаў да яго ўступ (па-ангельску) Арнольд Макмілін — прафесар Лонданскага універсітэта, вядомы славіст, лепшы ў замежжы знаўца беларускай літаратуры і мовы. Няпоўных сем старонак Макмілінавага «Уступу» ўражваюць сваёй ёмістасцю. Гэта як канспект ці рэзюме манаграфіі: далейшая дэталізацыя магчымая, але асноўныя аспекты і высновы — вызначаны. Высокі клас літаратуразнаўчай працы — і ў той сістэматычнасці, з якой Макмілін характарызуе кнігу, што ў руках чытача. Ён пералічвае ўсе эмацыянальныя і сюжэтныя тэмы зборніка — ад найчасцейшых і ўстойлівых да адзінкавых. Называе асноўныя рысы мастацка-вобразнай палітры Л. Геніюш, пры гэтым пранікліва прымячае фальклорныя паралелі, магчымыя водгукі паэтыкі Някрасава ці Бабеля. Потым метадычна характарызуе метрыку, рытм, віды рыфмаў. Закранаючы мову Геніюш, адзначае гарадзенскія дыялектызмы, індывідуальныя рысы арфаграфіі, нават пунктуацыі. Месца Ларысы Геніюш у беларускай літаратуры Макмілін акрэслівае так: па сіле таленту, глыбіні і тонкасці светаадчування, па напрамках мастацка-вобразных пошукаў яе паэзія стаіць бліжэй за ўсіх да творчасці Багдановіча і Гаруна.

Аднак не ўсё бездакорна ў гэтым выданні. Вядома, я рызыкую навязваць выдаўцу-рэдактару зборніка пытанні, за якія ён не меў намеру брацца. Але арыгінал зборніка ад нас так далёка, што пытанні паўстаюць адразу. Тым больш, што зборнік мае характар папярэдняй публікацыі: ён адрасаваны не столькі шырокім колам аматараў паэзіі, колькі будучым выдаўцам і даследчыкам. Таму было б натуральна чакаць ад «Уступу» ўсіх магчымых звестак аб рукапісу. Як ён трапіў у Лондан у 1988 годзе? Дзе захоўваўся ці хаваўся дагэтуль? Почырк аўтаркі — але якіх гадоў? Хто і калі скампанаваў зборнік? Наогул, кожнае слова аб лонданскім архіве Геніюш прачыталі б на Беларусі з гранічнай увагай.

А. Макмілін гаворыць ва «Уступе», як цяжка было часам разбіраць рукапіс — чытанне як дэшыфроўка. Рэч натуральная для тэкстолага. І што ж у рэшце рэшт: заўсёды знойдзена адзінае чытанне? А можа, варта было б у падрадковых заўвагах паказаць варыянты інтэрпрэтацыі? Ці змясціць факсіміле хаця б аднаго цяжкага месца? Між тым памылкі чытання ёсць. Не месца іх тут тыражаваць, але, разгарнуўшы зборнік, можна ўбачыць, як не кладуцца ў памер словы ў вершах «Цуд» (9-ы радок), «На берагу чужым» (5-ы радок), «Вецер гойдае» (перадапошні радок), «Я — не сама» (2-і радок). Ёсць і памылкі друку (гл. старонкі 16, 18, 24, 32, 45).

Але ж, вядома, не гэтыя агрэхі вызначаюць вартасць лонданскага першавыдання Ларысы Геніюш. Арнольд Макмілін увёў у беларускае чытанне і сусветную славістыку, паэтычныя тэксты, якімі будзе ганарыцца айчынная літаратура. Так вяртаецца на радзіму наша духоўная спадчына, аднаўляецца справядлівасць, шырацца далягляды беларускай паэзіі.

**Ніна МЯЧКОЎСКАЯ,**
**прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

---

# ВЯРНУЛАСЯ ПЕСНЯ З-ЗА АКІЯНА

Масей Сяднёў лімаўскаму чытачу знаёмы: штотыднёвік неаднаразова змяшчаў яго вершы і публіцыстычныя артыкулы, пра творчасць М. Сяднёва-паэта падрабязна расказала ў артыкуле «Мне песня дадзена на мукі...» (№ 32, 9 жніўня 1991 года) Лідзія Савік, у адным з месячных аглядаў часопісаў быў заўважаны і яго раман «І той дзень надышоў», апублікаваны часопісам «Нёман» у перакладзе на рускую мову. Сёння ж мы згадваем гэтае імя вось з якое нагоды: выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла аднатомнік твораў паэта і празаіка «Патушаныя зоры».

У артыкуле-ўступе «Хвалююся, сумую і пішу» Б. Сачанка гаворыць пра жыццёвы і творчы шлях М. Сяднёва, дае высокую ацэнку яго лепшым творам.

«Патушаныя зоры» — так называўся і зборнік М. Сяднёва, што выйшаў у 1975 годзе ў Амерыцы (Мюнхен—Нью-Йорк). За гэтым вобразам — сум па радзіме, туга па незваротнасці страчанага. Яна дае аб сабе знаць не ў адным творы М. Сяднёва:

**Цябе я пакідаў, я думаў,**
**ненадоўга —**
**праз месяц, праз другі**
**вярнуся зноў.**
**Але цягнік далей, далей**
**мяне ўсё тоўхаў:**
**як незнарок — назад не йшоў...**

Але кніга яго — гэта і споведзь перад Радзімай, беларускім народам, падрахунак пройдзенага. У гэтай кнізе — і раннія вершы, напісаныя ў пачатку трыццатых гадоў у родным М. Сяднёву Мокрым Касцюковіцкага раёна. У многім традыцыйныя, блізкія да твораў шмат якіх беларускіх паэтаў. І, вядома ж, значнае месца займае ў кнізе турэмны цыкл, ён, як і кніга, называецца «Патушаныя зоры». Немагчыма спакойна чытаць гэтыя творы, балюча дакранацца да іх. Вось «Жах». Калі б стваралася ў рэспубліцы анталогія аднаго лагернага верша паэтаў — сталінскіх вязняў, ён заняў бы ў ёй адно з першых месц:

**Параніла сябе густая ноч**
**на ледзяных нажах.**
**Турма. Як бляск вар'яцкіх воч,**
**у вокнах б'ецца жах.**
**Цялячы крык упаў на брук**
**і лужына — крыві.**
**І нейчы голас: — Пальцы рук**
**сціскай мацней, даві!**

Пакутна-роздумнае і ў раздзеле «На маршрутах»: «...прайшоўся я ў сне па зямлі Беларусі — гэта значыць, напэўна, я туды не вярнуся». І як працяг — раздзел «Як спажытак штодзённы»: «Баюся тых дарог, што я прайшоў аднойчы...». У раздзеле «Роздум» — таксама балючае: «Нашто ж, скажы, між Захадам і Усходам вачыма сінімі ты прарасла?» Гэта — пра Беларусь, якую любіць М. Сяднёў беззапаветна, а доўгі час любоў гэтая была любоўю без узаемнасці.

Наступныя раздзелы — «На супынку», «Слова», «Ачышчэнне агнём», «Уяўленне», «А часу больш, чым вечнасць». Яны — дапаўненне папярэдніх, бо ўсе паэтычныя творы М. Сяднёва — адна вялікая кніга, якая пішацца ім не адно дзесяцігоддзе.

І як дапаўненне да вершаў — раман «І той дзень надышоў». Герой яго — той жа лірычны герой паэтычных твораў. І ўжо глыбокі сэнс набывае радок аднаго з нядаўніх вершаў М. Сяднёва: «Я ёсць заўсёды на Радзіме».

Спадзяёмся, што неўзабаве «будуць заўсёды на Радзіме» і шмат якія іншыя пісьменнікі беларускага замежжа. Іх творы для калектыўных і аўтарскіх зборнікаў таксама падрыхтаваў Б. Сачанка.

**А. М.**

**І вось прамоўцы пыл сунялі свой, —**
**Яму была аб'яўлена вымова.**

**Ішоў ён з залы, шчыльна сцяўшы рот...**
**За ім ішлі ўрачыста, пераможна.**
**І я ішоў, мяне кідала ў пот, —**
**Было на сэрцы цяжка і трывожна.**

**Я думаў, галаву ламаў над тым,**
**Што чуў я ад прамоўцаў тых у залі.**
**Яму не памаглі, а словам злым**
**Яго душу і годнасць растапталі.**

**І зараз не магу я зразумець,**
**Хіба з памылкай трэба так змагацца!**
**Якія душы трэба людзям мець! —**
**Скажыце, — у каго мне запытацца.**

**Суровы век! Скажы ты мне, скажы,**
**Ці доўга будзе між людзьмі трывога!**
**Няшчасных ад віны засцеражы,**
**Шчаслівых уратуй ад слова злога.**

1967 г.

## Як у лузе, лузе

**Як у лузе, лузе снегавеі веюць,**
**Ад марозу вербы над ракой нямеюць.**
**За ракой у вёсцы зімавей лядзячы.**
**Па сынку любімым маці горка плача.**

**Матчыну нядолю злосны сівер носіць...**
**Хто ж улетку травы за ракой пакосіць!**

**Хто нарэжа ўвосень ён на зіму дровы...**
**Толькі сын не чуе роднай маці словы.**

**На яе ласкава ён ужо не гляне, —**
**Дзесьці ён загінуў у Афганістане.**

**Сынаў фотаздымак боль не сунімае,**
**Сынава начальства маці праклінае, —**

**Каб жа тым паганцам жыць было нялюба,**
**Што паслалі сына ў чужы край на згубу.**

**Як у лузе, лузе снегавеі веюць,**
**Снегавеі веюць — вербы ледзянеюць.**

1988 г.

## Мова мая

**Мова мая, беларуская, мілая.**
**Чаму для начальства ты стала**
**«постылою»!**
**Навошта табою яно пагарджае**
**І гэтым мой слаўны народ абражае!**

**Мова мая, беларуская, вечная.**
**Не раз чужакамі была ты знявечана, —**
**Таму беларус у настроі ці ў горы**
**На мове сваёй часам кепска гаворыць.**

**Мова мая, беларуская, родная.**
**Няхай жа цвіце твая гожасць прыродная.**
**У сумныя дні і ў часы навальніцы**
**Народу майму будзь гаючай крыніцай.**

1989 г.

## Сакрамант

**Жывіце, людзі, Родны край любіце.**
**Шануйце рэкі, пушчы і палі.**
**Адзін другому злосці не таіце,**
**Бо ўсе на свеце — госці на зямлі.**

Май, 1991 г.

---

вы Беларусь. «Белоруссия — название, даваемое части России, находящейся долгое время под владычеством Литвы и Польши и только впоследствии снова возращенной России» — пісалася ў «Энциклопедическом словаре» Бракгаўза і Эфрона (т. 5, 1891 г., С.-Пецярбург, стар. 231). А калі да гэтага дадаць забарону царскіх улад друкаваць хоць штонебудзь па-беларуску, дык становіцца зразумелым, як цяжка, небяспечна было пачынаць беларускую справу ў тыя гады. «Тады трэба было беларускія такія, на цяперашні погляд лёгкія пазіцыі дабівацца вялікімі высілкамі волі, веры ў будучыню беларускай нацыі, што яе трэба будзіць з векавога сну, афярамі штодзённага жыцця, адмовай ад асабістага прыватнага шчасця,— пісаў А. Уласаў.— Тады гэта тэндэнцыя была ў невялікай перадавой жмені беларусоў». Не дзіва, што першыя творы новай беларускай літаратуры былі надрукаваны за межамі Беларусі — верш Паўлюка Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» у 1854 г. у Лондане, тыя ж «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага — у 1867 г. у Парыжы, кнігі паэзіі і прозы Францішка Багушэвіча — у Кракаве і Познані (1891, 1892, 1894). Хоць пра беларусаў быццам нямала пісалася ў польскім і рускім друку, выходзілі нават асобныя даследаванні — Я. Чачота, У. Сыракомлі, А. Кіркора, А. Пыпіна, М. Нікіфароўскага, П. Шэйна, М. Доўнар-Запольскага, Е. Раманава, М. Любаўскага, П. Уладзімірава і інш., але ж усе гэтыя аўтары ў большасці сваёй глядзелі на беларусаў як бы збоку, зверху. «Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы», — прароча пісаў М. Дабралюбаў. Зрэшты, беларусы не маўчалі, гаварылі, што думалі — у сваіх песнях, казках, паданнях, легендах, прыказках і прымаўках. Ды і ў летапісах, даўнейшых творах, што дайшлі з сівой мінуўшчыны. Патрэбна было мець свае выдавецтвы, газеты, часопісы, якія б друкавалі беларусаў на роднай мове. І на пачатку дваццатага стагоддзя друкаваныя органы ўзніклі — у Пецярбурзе, Вільні. Царскія ўлады даволі падазрона рэагавалі на нараджэнне беларускага друку. У цэнзурных камітэтах уважліва чыталі ўсё, што рыхтавалася да выдання па-беларуску і, як толькі знаходзілася нейкая зачэпка,— забаранялі. Так, «первшая белоруская газэта для вёсковаго и местоваго рабочаго народу» «Наша доля», якая выйшла ў верасні 1906 г. і якая пісала ва ўступным артыкуле да «чытацелёў»: «И пачали людзи шукаць прычыны нашае нядоли. Шукали у книжкох, пытали у самого жыцця. И усюды быў адзин адказ: «Дайце беларусу такую книжку, каб йон зразумеў, што ў йой написана. Тольки книжка, написаная на мови бацькоў яго, патрапиць сноп свету закинуць у цяжкое жыццio беларуса, тольки яна патрапиць холад и голад выжануць з мужыцкае хаты, тольки яна пакажэць яму дарогу да лепшае яснейшае доли!» — была забаронена пасля выхаду шостага нумару, хоць на газету і раней неаднаразова накладваўся арышт, а рэдактар-выдавец Іван Тукеркес прыцягваўся да крымінальнай адказнасці. Урэшце, 11 студзеня 1907 г. выданне газеты было забаронена, а сам яе рэдактар прыгавораны да турэмнага зняволення. Але з закрыццём «Нашай долі» беларуская справа не спынілася, бо ўжо ў 1906 годзе, у выніку расколу ў рэдакцыі «Нашай долі» (дарэчы, у выданні гэтай газеты прымаў удзел і А. Уласаў), утварылася другая легальная беларуская газета— «Наша ніва». Яе першы рэдактар-выдавец С. Вольскі, выпусціўшы некалькі нумароў, сышоў са сцэны і перадаў выданне газеты Аляксандру Мікітавічу Уласаву (з 8 снежня 1906 г.). У неверагодна цяжкіх матэрыяльных і іншых варунках (безупынныя канфіскацыі, штрафы, судовыя працэсы і адміністрацыйныя спагнанні) Аляксандр Уласаў выдаваў «Нашу ніву» аж да 1914 года, калі ўсчалася першая сусветная вайна і яго забралі ў войска. Толькі тады ён, спярша рэдактарства, а потым і правы выдаўца перадаў Янку Купалу (16 мая 1914 г.). «Пачатак беларускай прэсы быў увесь на ахвярах — цяжкай начной працы,— успамінаў потым Аляксандр Мікітавіч.— Паўтраця году мы з Антонам Луцкевічам пісалі ад вечара да раніцы. Як мы вытрымалі гэту работу, я не разумею. Маладосць, нязломная воля і энтузіязм! Трэба было выпрацоўваць літаратурную мову. Пазней з'явіліся памачнікі. Прыходзілі да нас як у Запарожскую сеч». Роля і значэнне выдаўца-рэдактара А. Уласава ў выданні «Нашай нівы» мала асветлена ў нашым друку. Больш даследчыкі спыняюцца на ролі Івана і Антона Луцкевічаў, ды яшчэ Янкі Купалы. Яно і зразумела — і Іван, і Антон Луцкевічы былі таленавітыя публіцысты, таленавітым публіцыстам і выдатным, геніяльным паэтам быў Янка Купала, іх творы часта змяшчаліся на старонках газеты і паводле гэтага лёгка рабіць розныя абагульненні. Аляксандр жа Мікітавіч друкаваўся ў «Нашай ніве» рэдка, найчасцей не пад сваім прозвішчам. З прац, якія выходзілі асобнымі выданнямі, вядома хіба што яго «Аб гаспадарцы на хутарах і шнурах» (1909), хоць як вучоны-даследчык ён выяўляў сябе ў многіх галінах. Каб не быць галаслоўным, спашлюся, да прыкладу, на яго навуковае даследаванне «Хатнія промыслы Беларусі», дзе ён на багатым гістарычным фактычным матэрыяле расказвае пра беларускае ткацтва, ганчарства, вырабы з дрэва, такарныя, хатнія і хімічныя промыслы, выраб кошыкаў, абутку, адзення, музычных інструментаў, рымарства, гаспадарчага струманту і машын (зборнік «Нашай нівы» за 1920 г.). Гэтая праца А. Уласава не страціла сваёй каштоўнасці і па сённяшні дзень. Будучы чалавекам добрым па натуры, да таго ж, не пазбаўленым гумару, ён лёгка сыходзіўся з людзьмі, умеў уладжваць канфлікты і таму стварыў пэўную добразычлівую творчую атмасферу ў рэдакцыі, імкнуўся прыцягваць да працы ў газеце новых і новых супрацоўнікаў. І тое, што, як падлічылі вучоныя, «Наша ніва» толькі за першыя тры гады надрукавала 906 карэспандэнцый з 486 вёсак і мястэчак, 246 вершаў 61 паэта і 91 апавяданне 36 празаікаў — заслуга і Аляксандра Мікітавіча. Усё лепшае, што было тады ў беларускай літаратуры, што нараджалася ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху, трапляла на старонкі «Нашай нівы». Адзін пералік аўтараў робіць гонар гэтаму выданню — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Цётка, Максім Гарэцкі, Ядвігін Ш., Змітрок Бядуля, Вацлаў Ластоўскі, Карусь Каганец, Цішка Гартны, Уладзіслаў Галубок, Канстанцыя Буйло...

**Як і ў кожнай рэдакцыі, у «Нашай ніве» таксама былі свае парадкі. Пра іх пісаў Вацлаў Ластоўскі: «Склад рэдакцыі «Нашай нівы» ў 1909 годзе быў гэткі: А. Уласаў, браты Іван і Антон Луцкевічы, Ядвігін Ш. (Лявіцкі), Янка Купала, В. Ластоўскі і, дарыўкамі—Язэп Манькоўскі (Янка Окліч) ды Чыж (Альгерд Бульба), а на пачатку лета 1909 г. прыбыў яшчэ С. Палуян.**

**Гэты склад рэдакцыі ў 1909 і 1910 гг. рэзка распадаўся на дзве групы, каторыя былі дамэтна ахарактарызаваны свежа прыехаўшым з Кіева С. Палуянам «верхняй» і «ніжняй» палатамі. Да «верхняй» палаты належалі: А. Уласаў, браты Луцкевічы і, калі бывалі,—Чыж і Манькоўскі. «Ніжняя» палата складалася з Ядвігіна Ш., Янкі Купалы, Ластоўскага і Палуяна, а ў канцы 1909 г. да яе далучыўся мастак-маляр Я. Драздовіч. Рэдакцыя ў цэлым ніколі не сыходзілася... За зачыненымі і завешанымі цяжкай драперыяй дзвярыма ў гасподзе «верхняй» палаты вяршыліся «высокія» палітычныя матэрыі. Адгалоскі шырокіх планаў «верхняй» палаты даходзілі ў «ніжнюю» з трэціх і пятых рук, часта ў хаатычнай форме. Адно толькі было пэўным, што там ішла буйная ігра са значнымі стаўкамі з боку уніяцкай іерархіі і некаторых другіх, сільных у тыя часы,палітычных краёвых чыннікаў. Ад вуліцы ж у «ніжнюю» палату ішла публіка «чорная» і «шэрая». Ясна, што пры такім падзеле, «верхняя» і «ніжняя» палаты думалі па-рознаму, жылі рознымі ідэаламі, насілі ў сабе зародкі розных кірункаў нацыянальнай мыслі».**

**Усе гэтыя кірункі «нацыянальнай мыслі» і траплялі на старонкі «Нашай нівы», што давала магчымасць потым вучоным выносіць ёй самыя розныя ацэнкі, часам дыяметральна супрацьлеглыя.**

Падсумоўваючы тое добрае, што зрабіла «Наша ніва» для беларускай грамадскасці, у «Зборніку «Наша ніва» рэдакцыя пісала ў 1920 г.: «Гуртуючы каля сябе ўсе свядомыя беларускія сілы, пад той час вельмі нячысленныя, «Наша ніва», як ядыная тады часопісь у беларускай мове, сталася тэй кузняй, дзе пачаў выпрацоўвацца беларускі нацыянальны ідэал. «Наша ніва» сталася пуцяводнай зоркай для беларускага грамадзянства і дзесяць лет вяла яго шляхам нацыянальнага будаўніцтва — да ідэалу поўнага культурнага, эканамічнага і палітычнага вызвалення беларускага народу».

Аляксандр Мікітавіч Уласаў — адзін з арганізатараў і актыўных дзеячаў Беларускай сацыялістычнай грамады, — палітычнай арганізацыі, што ўзнікла ў Пецярбурзе ўвосень 1903 года. Лічыцца, што галоўную ролю ў гэтай арганізацыі, якая спярша называлася Беларуская рэвалюцыйная грамада, іграў Іван Луцкевіч. Ці так гэта? Сам Аляксандр Мікітавіч, арыштаваны ў 1939 г. органамі НКУС, на допытах на пытанне, хто з'яўляўся кіраўніком Беларускай рэвалюцыйнай грамады ў перыяд 1905—1906 гадоў, адказваў: «Кіраўнікамі Грамады ў гэты перыяд з'яўляліся я і Алаіза Пашкевіч». Менавіта яму, Аляксандру Уласаву, было даручана на з'ездзе БСГ, які адбыўся ў канцы 1905 г., распрацаваць разам з Антонам Луцкевічам самую складаную частку праграмы — аграрную. Якраз па гэтым пытанні на з'ездзе і адбылася вострая дыскусія. Антон Луцкевіч потым успамінаў: «Самая гарачая дыскусія ўзнялася на грунце зямельнае праграмы. Тут спорку вялі між сабой Іван і я... Справа ў тым, што мой і Уласаўскі праект праграмы па зямельнаму пытанню як быццам прадбачыў наперад доўгі шлях да здзяйснення яе: мы схіляліся да таго пагляду, што выбух Рэвалюцыі ўжо канчаецца, і пачынаецца рэакцыя, проці якое мы сяння бяссільныя. Наадварот, Іван лічыў неабходным кінуць сялянству найбольш зразумелы яму лозунг: дзялі зямлю! — маючы наўвеце прадоўжыць і ўзмацаваць слабеючы размах Рэвалюцыі. Іван глядзеў на далейшае развіццё Рэвалюцыі больш аптымістычна, чым мы, і прапанаваў сваю формулу ў сказаным духу. Аднак, і большасць з'езду не падзяляла Іванавага аптымізму, і наш праект перамог».

Галоўнымі пунктамі гэтае зямельнай праграмы, як піша А. Луцкевіч, былі:

**«1. Канфіскацыя ўсіх дворных, царкоўных, касцельных, «удзельных» і іншых земель ды ўтварэнне з іх—разам з землямі казённымі—нацыянальнага зямельнага фонду, з якога будуць карыстаць малазямельныя і беззямельныя сяляне.**

**2. Гаспадар нацыянальнага зямельнага фонду ў межах Беларусі — краёвы самаўрад (аўтаномны Сойм), незалежны ад расейскага цэнтральнага ўраду ў справах зямельнага распарадку.**

**3. Зямлёй надзяляюцца (ведама, без ніякага «выкупу») малазямельныя і беззямельныя сяляне—па прынцыпу тварэння рацыянальна пастаўленых дробных гаспадарчых адзінак, здольных быць прадуцэнтамі хлеба, ад чаго ўзалежняецца і велічыня надзелаў.**

(Працяг на стар. 14—15).

## ПЕРАКЛАДЫ

**Гэтую маленькую, на першы погляд кволую жанчыну можна сустрэць не толькі ў Мінску, Кіеве, Варшаве ці Сафіі на кангрэсах, з'ездах па праблемах перакладаў славянскіх літаратур, бо яна з'яўляецца кансультантам Венгерскага Саюза пісьменнікаў па славянскіх літаратурах, але—і ў Боне, Парыжы, Вене, Лондане, іншых гарадах свету на з'ездах ахвяр палітрэпрэсій. Бо перакладчыца славянскіх літаратур, член Саюза венгерскіх пісьменнікаў Шара Карыг пасля вайны шмат год правяла ў «працоўных» сталінскіх лагерах пад Варкутой.**

**Мы сябруем з Шарай Карыг ужо не адзін год. Яна дапамагала мне ў першых вопытах перакладаў з венгерскай паэзіі. Аднойчы ў яе невялікай будапешцкай кватэры мне на вочы трапіліся вершы... самой Шары Карыг, датаваныя 50-52-м гадамі. Парадаксальная сітуацыя. Менавіта трапіўшы ў «працоўны» лагер пад Варкутой, яна ўпершыню ўзялася за пяро. Менавіта там адкрылася сэрцу маладой жанчыны таямніца мастацкага слова, менавіта ТОЕ жыццё надзяліла яе здольнасцю ствараць мастацкія вобразы, тым самым пераўтвараючы гэтае жыццё ў сваім сэрцы ў штосьці больш высокае і каштоўнае, што было напоўнена сапраўдным сэнсам. І, можа, менавіта гэта дапамагала выжыць у тых жудасных умовах.**

**Хацелася б прапанаваць чытачу пераклады некалькіх вершаў з «варкуцінскага сшытка» Шары Карыг.**

**Ад перакладчыка.**

**Шара КАРЫГ**

## «Жыў я тады, калі быў шчаслівы...»

**Быццам на іншым то свеце было,—**
**Высветліў месяц здані шкілетаў.**
**Дзіўна, што гэта на памяць прыйшло**
**Па-над Дунаем у квецені лета.**

**Я таксама той зданню была,**
**У полі сіверным не раз пруцянела.**
**Толькі ў снах мне дзядоўнік палаў,**
**Толькі ў снах мяне мальва грэла.**

**Не, не веру. То сну замовы,**
**Мёртвы жах без адзінага промня.**
**Успомніла я венгерскую мову,**
**А як жыць па-венгерску—не помню.**

**З мёртвым светам спрачаюся ў сне:**
**Падаюць слёзы, як брудны снег,**
**Крык душы за малітву гучней:**

**«Там, дзе дзяцінства маё праляцела,**
**Там, дзе ручай шапацеў клапатліва,—**
**Колькі мяне вечароў не заспела!**
**Жыў я тады, калі быў шчаслівы[1]...»**

Варкута, 1952 г.

[1] Цытата з верша выдатнага венгерскага паэта Кішфалюды Караі «Няшчаснае каханне».

## Пад чорным небасхілам

**На колькі ж дзён яшчэ хопіць веры!**
**Якая смерць стане маёй!**
**У летнім небе сонца замерла**
**Над нежывою чорнай зямлёй.**

**Якая ж смерць маёю стане,**
**Калі ўжо чырвоная кроў запяклася!**
**Дзень сляпы патануў у тумане,**
**Летняе неба ўжо фарбы гасіць.**

**Магчыма, лета даўно памерла,**
**Бо сонца-дзіва на ім не ззяе,**
**І ўжо не грэе, не свеціць вера,**
**Зямля бялее і смерць чакае.**

**Летняе неба даўно астыла.**
**Цёмная ноч, а дзень—цямней**
**Тут, пад чорным тым небасхілам,**
**Колькі смерцяў выпала мне!**

Варкута, 1950 г.

## Герой і мёртвы

**Толькі той да цяпла пратрымаўся,**
**Хто ад работы ў шпіталі схаваўся.**
**А ў каго сэрца яшчэ не памерла,—**
**Тундравым той захлынаўся паветрам.**

**Усе былі волаты, нібы ў доказ,**
**Што і без лозунгаў можна здохнуць.**
**Толькі ж — як можна — без справаздач,**
**Без грандыёзных вялікіх задач!**

**Плюнь кроўю смерці ў кастлявую**
**морду,—**
**Даў нарміроўшчык новую норму.**

**Зводка ўрачыста ўсім абвяшчае:**
**Ікс-тысяч людзей у тундры канае.**
**Рэйкі кладуць ікс-тысяч шкілетаў,**
**Што не дацягнуць да новага лета.**

Варкута, 1951 г.

Пераклала з венгерскай
Любоў ФІЛІМОНАВА.

**МУЗЫКА**

# ГРАННЕ РАЗАМ—АСАЛОДА...

**У Баранавічах адбыўся заключны канцэрт 5-га рэспубліканскага конкурсу аркестравых калектываў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і ДМШ, якія праходзілі на працягу лютага-сакавіка па ўсёй Беларусі.**

ЗНАЧНАСЦЬ конкурсу для музычнага жыцця рэспублікі найперш у тым, што падрыхтоўкай і ўдзелам у ім, г. зн. прафесійнай творчай работай, была ахоплена вялікая колькасць маладых музыкантаў, у тым ліку самых юных — будучых дзеячаў мастацтва. Толькі ў заключным этапе конкурсу, пасля абласных і гарадскіх адборачных праслухоўванняў, было прадстаўлена 94 калектывы — аркестры рускіх народных інструментаў, сімфанічныя, камерныя, цымбальныя, духавыя, баянныя, эстрадныя, фальклорныя, а гэта больш за 3500 чалавек. Па рэспубліцы ішло свята калектыўнага грання, якое сталася здабыткам шырокай грамадскасці. Ці не ўсе конкурсныя праслухоўванні праходзілі пры поўных залах, выступленні маладых музыкантаў прымаліся з вялікім энтузіязмам.

Да конкурсаў можна ставіцца па-рознаму. У публікацыях вядомых музыкантаў прасочвалася думка пра адмоўнае ўздзеянне творчых спаборніцтваў на выканаўцаў, пра конкурсаманію і г. д. Ды гэта справядліва ў тых выпадках, калі конкурс з'яўляецца самамэтай і падрыхтоўка да яго вядзецца аўральным шляхам з затратай велізарных намаганняў у кароткі час. Там жа, дзе конкурс разглядаецца як адзін з этапаў творчага росту, як вынік рэгулярнага і сістэматычнага ўдасканальвання выканаўчага майстэрства ў шырокім сэнсе— там выступленне асаблівых высілкаў не вымагае. Больш за тое, яно неабходна — як найвышэйшы пункт творчага натхнення. Яркі прыклад такой работы — выступленне цудоўнага калектыву, камернага аркестра Музычнага ліцэя пры БДК (кіраўнік У. Перлін), які лёгка і проста заваяваў дыплом І ступені. Пэўна, гэта адзіны калектыў, які паказаў поўную псіхалагічную разняволенасць, надзіва музычнае і тонкае пранікненне ў змест выконваемых твораў, непасрэднасць і артыстызм кожнага юнага аркестранта.

Уражанні пасля конкурсу размаітыя. Самае важнае — узровень майстэрства аркестраў і іх кіраўнікоў вырас відавочна. Пра гэта сведчаць і вынікі. Па абедзвюх узроставых групах 47 калектываў узнагароджаны дыпломамі, сярод якіх 16 — першай ступені. Непаўторную эстэтычную асалоду прынеслі яркасць, багаты каларыт гучання, віртуознасць цымбальных аркестраў, сакавітасць і густата гучання, спалучаная з дзівоснай пластыкай рытму і дынамікі, — рускіх народных аркестраў, філасофская глыбіня, тонкая рэльефнасць ліній — сімфанічных і камерных калектываў, святочная прыўзнятасць, урачыстасць і маляўнічасць — духавых і эстрадных, гушчыня і шчыльнасць гучання — баянных аркестраў, што асацыіруецца з гучаннем аргана.

Найбольш прафесійны ўзровень паказалі аркестры старшай узроставай групы. У малодшай такіх было менш. Сярод іх вылучаліся дзіцячыя аркестры рускіх народных інструментаў ДМШ № 1 г. Віцебска (кіраўнік А. Цераш) і гасцей са Смаленска (кіраўнік М. Чмель), цымбальны аркестр ДМШ № 3 г. Ліды (кіраўнік Г. Агарок), магілёўскія калектывы — духавы з ДМШ № 3 (кіраўнік А. Кірэйчанка), камерныя (ДМШ № 3, кіраўнік У. Шчэрба і Музычнага ліцэя, кіраўнік В. Родаў), баянны аркестр ДМШ № 2 г. Мазыра (кіраўнік А. Масаленка); джаз-аркестр мінскай ДМШ № 9 (кіраўнік А. Чысцякоў) і эстрадны з Салігорска (кіраўнік Л. Карташоў), народна-фальклорны аркестр полацкай ДМШ (кіраўнік П. Казлоў) і інш.

Большасць жа дзіцячых калектываў пакуль яшчэ ў стадыі росту. Гэта тычыцца і мастацкага ўзроўню, і ўкамплектаванасці аркестраў, і рэпертуару, а часам і творчай кампетэнтнасці кіраўніка і інш. Таму сёння важней адзначыць не так майстэрства, як менавіта далучэнне шырокага кола дзяцей, нават самых слабых, да спазнання сакрэтаў выканаўчага майстэрства праз калектыўнае гранне. І ў гэтым сэнсе ўсялякага заахвочвання вартыя кіраўнікі аркестраў, сапраўдныя энтузіясты, якія аддаюць працы з калектывамі нямала сіл і энергіі. Але, натуральна, што найбольшую карысць навучэнец атрымлівае ў тым калектыве, дзе перад ім ставяцца найбольш высокія мастацкія задачы. Іншымі словамі, навучэнец, які пісьменна і музычна выконвае аркестравую партыю, расце як музыкант не менш эфектыўна, чым у класе па спецыяльнасці. Таму варта параіць многім кіраўнікам больш увагі аддаваць працы над фразіроўкай і інтанацыяй, дынамічнаму балансу паміж групамі і ўнутры кожнай з іх, дакладнай рытмічнай і штрыхавой арганізацыяй і іншымі мастацкімі якасцямі.

У гэтым сэнсе горшыя, а часта і проста кепскія справы ў школьных і некаторых вучылішчных духавых аркестрах. На жаль, большасць кіраўнікоў гэтых калектываў трактуюць усе творы ў састарэлай ужо манеры для параду (разам і гучна, але... фальшыва). Музыка ж, у якім бы жанры яна ні была напісана, заўсёды вымагае **творчага падыходу да выражэння мастацкіх задач.** Акрамя гэтага важна, каб дырыжор быў не проста арганізатарам, а ў першую чаргу мастацкім кіраўніком, які выхоўвае і развівае тонкі музычны густ і навыкі кожнага ўдзельніка аркестра.

А ШТО Ж калектывы старэйшых? Тут можна смела казаць пра майстэрства. Многія з іх выглядалі прафесійнымі канцэртнымі аркестрамі, са сваім індывідуальным творчым абліччам, цікавымі, змястоўнымі праграмамі. Думаю, што лепшыя з іх маглі б упрыгожыць філарманічную сцэну. Асабліва ўразілі тыя аркестры рускіх народных інструментаў, якія спалучаюць у сабе яркія рысы акадэмізму і фальклору, валодаюць найвысокай выканаўчай культурай.

Як і ў папярэдніх конкурсах на высокіх творчых пазіцыях засталіся аркестры пад кіраўніцтвам такіх прызнаных музыкантаў, як Т. Шафранава (Віцебск), Л. Іваноў (Магілёў), А. Патапейка (Ліда), В. Краўцоў (Гомель), А. Пальвінскі (Віцебск), У. Раманаў і Г. Багамолаў (Магілёў), Ф. Заут, А. Кан-

# «ПРАДМЕТ ГОНАРУ РОДНАГА ГОРАДА»

## Трупа Магілёўскага драмтэатра збіралася выйсці на папераджальную забастоўку

У АДНУ З СУБОТ МЫ, група крытыкаў, што прыехалі паглядзець спектаклі Магілёўскага абласнога тэатра, ішлі да ягонага будынка па зацемненым горадзе. Відаць, эканомячы электрычнасць, гарадскія ўлады адключылі асвятленне нават на цэнтральных вуліцах.

«Смешна сказаць: рэпеціравалі пры свечках»,— казала пазней дырэктар тэатра А. Барысава.— Пажарнікі з-за аварыйнага стану праводкі адключылі асвятленне. Цяпер і свечкі кончыліся, іх нідзе не прадаюць!»

«Я ніколі яшчэ не працаваў у такіх ідыёцкіх умовах,— іранізаваў Марк Волахаў, галоўны мастак трупы.— Мне на афармленне спектакля даюць 5 тысяч. Ды каб толькі апрануць маладога чалавека ў сучасны касцюм, трэба не менш за паўтары тысячы. А калі па п'есе ў героіні 2—3 пераапранні?!»

ДА БЯЗГЛУЗДЗІЦ «паглыбленых крызісаў» мы даўно прывыклі, разумеючы іх як непазбежнасць перабудовачных і пасляперабудовачных гадоў, але ўсеагульны разлад, у якім неяк яшчэ схітраўся існаваць калектыў магілёўскага тэатра, тады проста шакіраваў, бо быў далёка за мяжой таго цярпення, якое, спасылаючыся на ўсеагульнае дрэннае становішча, калі-ніякалі ўсё-такі апраўдваеш. Кожны чалавек, які хоць крыху мае дачыненне да мастацтва тэатра, быў бы салідарны з трупай і стаў з ёю па адзін бок барыкад. І палічыў бы за свой абавязак выйсці на плошчу перад будынкам абласнога Савета.

Па меры таго, як навакольнае жыццё, быццам пазбавіўшыся розуму, б'е з усіх бакоў, снежань мінулага года з яго смешнымі на сёння цэнамі, пабытавай неўладкаванасцю, узроўнем нявырашанасці праблем, здаецца ўжо момантам адноснай стабільнасці: тады ўсім было лягчэй...

У кожнага тэатра свой снежаньскі пункт адліку, свой «парог цярпення», «момант стабільнасці», пераваліўшы за які творчыя і гаспадарчыя справы толькі пагаршаюцца. Неяк не можаш адысці ад думкі: тое, што адбываецца з магілёўскім калектывам напярэдадні года, многія абласныя тэатры толькі прычакаюць у бліжэйшым будучым.

Як і ўсюды, у Магілёве амаль немагчымыя ўмовы для існавання тэатра: сімвалічная заработная плата, такія ж сімвалічныя пастановачныя сродкі, што выдаткуе дзяржава, неразбярыха ў цэхах і памяшканнях, што развальваюцца... У дадатак трупа апынулася на вуліцы — яе выставілі з уласнага дома... Службы, якія адказваюць за супрацьпажарны стан памяшканняў, пастрашылі колькі гадоў ды апячаталі будынак. І кожны чалавек са здаровым розумам уздыхне з палёгкай: нарэшце! Бо хадзіць у тэатр, гэтаксама як і працаваць у ім, проста небяспечна. На адным з дзіцячых ранішнікаў у фае абвалілася бэлька, толькі па шчаслівай выпадковасці не прыдушыўшы дзяцей. Праводка прагніла, дрот іскрыцца. Пад тымі, хто ідзе па галерэі, пагражальна калышацца падлога...

У маленькім катушку літаратурнай часткі з патрэсканымі сценамі і перакошанымі, аблупленымі дзвярыма, яго гаспадыня В. Хомчанка разбірае багаты архіў тэатра і паказвае мне ганаровы адрас. Ён быў паднесены калектыву тэатральнай грамадскасцю рэспублікі чатыры гады назад у гонар 100-гадовага юбілею будынка тэатра. Святочна-банкетныя інтанацыі яго старонак у кантэксце «іншага жыцця» выклікаюць толькі горкую ўсмешку.

**«Саюз тэатральных дзеячаў БССР сардэчна вітае вас — цяперашніх гаспадароў будынка Магілёўскага гарадскога тэатра, стагоддзе якога мы ўсе сёння святкуем.**

**Гэты прыгожы і зручна спланаваны будынак, лепшы твор таленавітага архітэктара Пятра Камбурава, застанецца сведкам грамадзянскай самасвядомасці магіляўчан, іх магутнай цягі да культуры — бо Гарадскі тэатр будаваўся на народныя ахвяраванні. Сцэна тэатра-юбіляра памятае выступленні Камісаржэўскай, Арленева, братоў Адэльгейм, Фядотавай, Яблачкінай, Юр'ева, Далматава, Занькавецкай... З ёй звязана станаўленне цудоўнага акцёра і рэжысёра Уладзіміра Кумельскага, стваральніка рускага тэатра ў нашай рэспубліцы. У гэтым гістарычным будынку працаваў малады Рускі тэатр БССР імя М. Горкага пад кіраўніцтвам Кумельскага і Арлова. І, нарэшце, больш за трэць стагоддзя назад Дом набыў у вашай асобе пастаянных гаспадароў.**

**Дык няхай Магілёўскі драматычны тэатр будзе заўсёды дастойны славы сваіх папярэднікаў, няхай ён любіць і клапатліва захоўвае для нашчадкаў свой цудоўны Дом — прадмет гонару роднага горада».**

Цяпер прыгожы, з чырвонай цэглы будынак магілёўскага тэатра, пра які нагадваюць энцыклапедыі і зборы помнікаў, які «ахоўваецца дзяржавай» і ў які любы магіляўчанін прывядзе заезджага госця падзівіцца з разьбы ложаў, з ляпніны столі, з лесвічных маршаў з каванымі кратамі, можа быць наогул страчаны. Сцэна аварыйная, падлога згніла, палова грузапад'ёмнікаў, паваротнае прыстасаванне кола і рэгулятар асвятлення сцэны сапсаваны. Разбураюцца сцены і столь.

Група энтузіястаў, якую ўзначальвае М. Волахаў, больш за дзесяць гадоў хадзіла па кіруючых інстанцыях, даводзіла, што будынак разбураецца і мае патрэбу ў капітальнай рэканструкцыі. Іх спачувальна-добразычліва выслухвалі ў кабінетах, абяцалі памагчы. І грошы адзін час выдаткоўваліся і на праект рэканструкцыі будынка быў падрыхтаваны інстытутам «Магілёўграмадзянпраект». Але справа не зрушылася. Тэатр ішоў да заняпаду, а побач з ім узнікала кальцо жалезабетонных стандартных скрынак. Сёння для рэканструкцыі тэатра патрабуецца ўжо валюта, сумы не малыя. Ды і СТД — арганізацыя, якая ўвасабляе тэатральную грамадскасць, калі не матэрыяльнымі ўкладамі, дык сваім аўтарытэтам магла б садзейнічаць рамонту тэатра, перажывае фінансавыя цяжкасці. Сярод «сваіх» спадзявацца няма на каго. А ад дзяржструктур ужо даўно нічога не чакаюць. «Калектыў страціў веру ва ўсё, што нам абяцаюць»,— сігналізавалі магіляўчане ў канцы 80-х гадоў і ў «Пражэктар перабудовы» і ў «Советскую культуру»: «Ні Міністэрства культуры БССР, ні партыйныя і савецкія органы ўдзелу ў лёсе калектыву не бяруць. Сцяна абыякавасці выбудавана паміж рэспубліканскімі і абласнымі арганізацыямі. Выбудавана трывала і грунтоўна».

Тады яшчэ жыццё, якое бурліла чаканнем, пакідала драбнюткую надзею на магчымасць хоць нейкіх перамен, але... вярнула кожнага да сваіх разбітых ночваў...

Няўжо і праўда тэатр асуджаны? У часы крыклівых кампаній па аднаўленні страчаных каштоўнасцей гэтаму старэйшаму на Беларусі, спецыяльна пабудаванаму і не прыстасаванаму для прадстаўленняў будынку без мецэнатаў — выпадае хуткае разбурэнне?

Паводле захаваных дакументаў, будаўніцтва тэатра ў Магілёве ў 1886–88 гг. абышлося ў 80 тысяч рублёў; і ў тыя заможныя часы народ сабраў значна меншую суму, чым патрабавалася для капітальнага будаўніцтва. Таму скарыстоўвалася цэгла кепскага абпальвання, а тэхнічнае абсталяванне будаўнічых работ не дазволіла абсталяваць тэатр тэхнікай, якая існавала нават у той час. Будынак быў узведзены без гідраізаляцыі. І дзесяцігоддзямі, вясной і ўвосень, сцены яго, як губка, ўбіралі вільгаць з глебы і намакалі да самага даху. У пасляваенны час калектыў тэатра саматужна, па ўласных чарцяжах абсталяваў сцэну грузапад'ёмнікамі, цалкам электрыфікаваў памяшканне, устанавіў пад сцэнай рэгулятар святла, зрабіў паваротную лябёдку на коле і г. д. Але паколькі ўсе работы вяліся без уліку нормаў супрацьпажарнай бяспекі і без спецыялістаў, то ўжо з канца 50— пачатку 60-х гг. усё ізноў занепала. Так гісторыя стварэння тэатра, яго наступнае старэнне і «мадэрнізацыя», памножаныя на неразбярыху апошніх гадоў, утварылі грымучую сумесь, якая пагражала выбухам. І ён адбыўся.

Выгнанаму з уласнага дома калектыву новага пастаяннага памяшкання для паказу спектакля не далі. Трупа вяла раз'язное існаванне, пракатваючы свае спектаклі па раённых ДК і зрэдку песцячы магіляўчан пастаноўкамі, якія даваліся ў арандаваным будынку Дома палітасветы. Няўжо мелі рацыю ў сваёй цынічнай ісціне тыя, хто разважаў, маўляў, гораду патрэбна ткацкая фабрыка, хімічны камбінат, вытворчыя майстэрні — г. зн. тое, што прыносіць рэальны даход, а для «культурнага адпачынку працоўных» ёсць гігант — Палац культуры ВА «Хімвалакно». Тэатр проста не знаходзіць сабе месца ў гэтай сістэме вытворча-гаспадарчых функцый і іграе дэкаратыўную ролю. Зачыні яго — мала хто заўважыць!..

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# НАЙПЕРШЫ КЛОПАТ

## Споведзь будучага беларуса

Якія нялёгкія, але абнадзейваючыя часы дараваў нам лёс! Магчыма, мы і не падазраём пра ўсе цяжкасці, што напаткаюць нас, ды надзея на лепшае, надзея на абуджэнне і вольны ўздым з небыцця ўжо нарадзілася і збірае пад свае штандары лепшых сыноў. Так мне ўяўляецца сучаснае становішча беларускага Адраджэння. Толькі параўнанні з вайной ці бойкай тут не зусім дарэчныя, бо справа Адраджэння — гэта ў большай ступені марудная, штодзённая праца, праца душы, а не палітычны ці сацыяльны штурм або які-небудзь іншы катаклізм. Душа ёсць у кожнага чалавека, а з многіх тысяч і мільёнаў душ складаецца нешта вялікае і вечнае, тое, што завецца душой народа. Якая яна, душа майго народа? Ці можна спасцігнуць яе? Як гэта зрабіць? Дзеля гэтага, мабыць, мала сустракацца з сучаснымі носьбітамі беларускага менталітэту, трэба яшчэ і разумець народныя традыцыі і мастацтва, глыбока, бо без любові і не спасцігнуць таямніцы ягонае душы. А якраз той любові не стае вялікай колькасці, баюся казаць — большасці нашых людзей, асабліва адукаваных, тых, хто яшчэ ў школах, інстытутах ды універсітэтах прыпаў да крыніцы рускай культуры ды так і застаўся стаяць перад ёй на каленях.

Я не супраць рускай культуры, адной з наймагутнейшых культур свету, развіццю якой, дарэчы, спрыялі лепшыя сыны не толькі рускага народа. Але адваротным бокам шанавання «расейшчыны» для нашай інтэлігенцыі стала занядбанне сваіх беларускіх каранёў і часцей не ў выглядзе простага бяспамяцтва, а свядомага ганьбавання і знявагі ўсяго беларускага як чагосьці нізкага і другасортнага. Я кажу так, бо сам усё гэта перажыў, сам прайшоў гэты шлях «інтэрнацыянальнага выхавання» і нацыянальнага самазнішчэння, ды, на шчасце, змог звярнуць са «сталбавой дарогі савецкай цывілізацыі». Добра памятаю, з якой пагардай і здзекам у дзяцінстве мы, хлапчукі рабочага пасёлка, каверкалі асобныя беларускія словы, калі жадалі паказаць сваю «рускасць», як сорамна было ў інстытуце за свой дыялект перад больш русіфікаванымі аднакурснікамі, якой нязграбнай і «дзеравенскай» здавалася беларуская мова.

Цяпер я зразумеў, што дрэнных моў наогул няма. Дрэнным бывае толькі веданне мовы, а на падставе павярхоўнага знаёмства — зманлівае ўражанне аб яе «непрыгажосці» альбо «непаўнацэннасці». Чалавек, які грунтоўна ведае некалькі моў, ніколі не скажа, што адна з іх лепшая, другая горшая. Кожная мова мае свой лад і сваю асабістую прыгажосць, непаўторнае гучанне і мелодыку, якія вылучаюць яе з іншых моў і ствараюць арыгінальны гукавы партрэт нацыі. Не выключэнне ў гэтым і беларуская мова. Яе часцей параўноўваюць з рускай, як найбольш вядомай і распаўсюджанай. Але чаму за ўзор ці кропку адліку бярэцца руская? Не менш, а то і больш агульнага мае яна з польскай ці ўкраінскай, шмат слоў аднолькава гучаць і па-нямецку. Беларусь, па волі лёсу, апынуўшыся на мяжы Усходняй і Заходняй Еўропы, натуральна адчувала на сабе ўплыў і ўзаемадзеянне суседніх народаў. І разам з тым беларуская мова захавала свае, уласцівыя толькі ёй прыкметы. Спалучэнне цвёрдага «р» і глухога «г» з мяккімі падвоенымі зычнымі, «аканнем» і «яканнем», звонкім «дзе» і дужым «джэ», пакарочаным суровым «ў» і шурпатым «шчэ», надае ёй нейкую старажытную грунтоўнасць і развážлівасць, а разам з тым простую і дакладную форму, блізкую да гукавога раду прыроды нашага краю.

Аднак мова — гэта не толькі гукі, мова — гэта кроў народа, якая звязвае паміж сабою ў адзіны арганізм асобных людзей і цэлыя пакаленні, нясе з сабою спадчынную інфармацыю і сучасныя здабыткі нацыі. Можна разбавіць кроў, але такі арганізм будзе хворым, можна замяніць яе на іншую, але ў такім выпадку хутка наступіць смерць. Смерць народа як суцэльнага і самастойнага арганізма.

І ўсё ж, калі казаць аб душы, то мова — толькі яе адлюстраванне, сама ж душа — гэта нешта больш глыбіннае і складанае, не заўсёды вытлумачанае нават словамі. Душа народа — гэта мары і спадзяванні, боль і радасць, вера і прымхі, а, урэшце, і характар народа, ці як яшчэ кажуць — нацыянальны менталітэт. Апошнім часам аб беларускім менталітэце шмат гаворыцца, магчыма, крыху і з перабольшваннем яго асобных бакоў, але талерантнасць, рахманасць, працавітасць, уладапаслухмянасць беларусаў мае і адваротны — адмоўны бок для нашага народа. Звышталерантнасць да іншых вядзе да ўласнай нацыянальнай занядбанасці, звышпаслухмянасць і рахманасць — да прыгнёту і рабскага стану, а ў гэтым выпадку і працавітасць узбагачае не саміх сябе, а «чужога дзядзьку». Такі, здавалася б, сумны вынік гістарычнага шляху беларусізацыі ўсё ж мае і нейкія аптымістычныя перспектывы.

Час імперыялізму адыходзіць у нябыт. Сучасны стан узбраення, тэхнікі, міжнародных адносін не дае магчымасці адкрытай сілавой барацьбы за сусветнае панаванне без рызыкі вынішчэння чалавечай цывілізацыі. Таму народы з імперскімі ці «звышмесіянскімі» патэнцыямі, маючыя на ўвазе гвалтоўнае падпарадкаванне і прыгнёт іншых, не могуць спадзявацца на поспех сваіх ідэй. Барацьба перамясцілася ў сферу навукі, культуры і арганізацыі вытворчасці, а тут перавагу атрымліваюць не тыя, хто мае больш амбіцый, а тыя, хто лепш працуе, знаходзіць кампрамісы і ўзаемавыгоды, выкарыстоўвае вопыт і здабыткі іншых, дбаючы, вядома, найперш пра свае інтарэсы. У гэтай сітуацыі, калі іншыя насельнікі былой імперыі з сапраўднай бальшавіцкай «незгибаемостью» пачалі вайну «амбіцый» і высвятлення адносін, угрузлі ў міжнацыянальных і ўнутрыпалітычных канфліктах, на Беларусі ёсць магчымасць эвалюцыйнага пераходу да новага грамадства шляхам рэформ і пошуку згоды між рознымі палітычнымі і сацыяльнымі сіламі. У дадзеным выпадку менталітэт беларусаў павінен адыграць сваю станоўчую ролю. Але трэба памятаць, што мэтай усё ж застаецца стварэнне не якогасць «інтэрнацыянальна-каланіяльнага» сатэліта, а суверэннай беларускай краіны, маючай свае каштоўнасці і арыенціры. Толькі на трывалай нацыянальнай глебе можа ўзрасці моцнае дзяржаўнае дрэва, і зараз найпершая справа — клопат аб такой глебе. Ад нашай дбайнасці будзе залежаць лёс таго парастка, які завецца ўсталяваннем беларускага ладу ці беларускага гаспадарства на зямлі нашых дзядоў.

А пакуль я не магу назваць сябе сапраўдным беларусам, і не толькі таму, што рэдка ўжываю родную мову, дрэнна ведаю нашу гісторыю і мастацтва, не магу пазбавіцца шматлікіх савецкіх комплексаў і звычак, а яшчэ й таму, што тая Беларусь, грамадзянінам якой я хацеў бы быць, існуе толькі ў марах і зданях, а душа майго народа спіць летаргічным сном і абуджэнне яе здзеецца з маленькіх абуджэнняў і вяртанняў з бяспамяцтва кожнага з нас. У кожнага свая дарога ў будучыню, але падтрымаць адзін аднаго на гэтым шляху мы павінны. Такі абавязак чалавечнасці.

У добры шлях, спадары!

Са спадзяваннем на лепшае яшчэ будучы беларус

**В. АЎРАМЕНКА.**

г. Магілёў.

# Ачніся, Беларусь!

**Гляджу я з вышыні гадоў**
**Нязгаслым яшчэ вокам:**
**Законаў тых ды пастаноў —**
**Пад парубень навокал.**

**Іх шчодра сеялі штогод**
**Навейшага гатунку.**
**Адно няўрод ды неўмалот —**
**Ніякага рыштунку.**

**А вось нядаўна, мой браток,**
**Рашылі: больш лагічна,**
**Калі запусцім на паток**
**Іх вопыт, заграгнічны.**

**Бывай, жураўка-камунізм!**
**Умомант, без запінкі**
**Пачаў гуляць капіталізм**
**Па голым нашым рынку.**

**Маўляў, жыццё тады у нас**
**Адразу завіруе,**
**Калі наблізім зорны час**
**Уласнага буржуя.**

**Не той, а свой міліянер**
**Накорміць, прыадзене,**
**Таму патрэбен шэраг мер,**
**Каб на святло ён з ценю.**

**І ўжо паўсюль, як матылі,**
**Або грыбы-паганкі —**
**Хапугі, мафі-каралі,**
**Саюзы, біржы, банкі.**

**І тут РК, АК, ЦК —**
**Усе партайгеносы**
**Плячо ў плячо, к руцэ рука**
**На новыя калёсы**

**Хапаюць, цягнуць і грабуць,**
**Хто колькі мае сілы.**
**Пад шум і гам, пад гэту муць**
**Узводзяць дачы, вілы.**

**А ламананосаўскі закон**
**Не лопне як са смеху:**
**«Калі адзін загроб мільён —**
**Другім якая ўцеха!»**

**Другім тым раяць пачакаць—**
**Не мала і не многа,**
**Пакуль не выйдуць, так сказаць,**
**На новую дарогу.**

**Тады й пачуем, кажуць, смак**
**Тае мачанкі-згоды,**
**Як кіне пан-буржуй праснак**
**Астатняму народу.**

**Устань, ачніся, Беларусь,**
**Ад летаргіі-лені,**
**Каб зноў не трэба быў Кастусь,**
**Тым болей — новы Ленін!**

**Іван КРАСУЦКІ.**

в. Гасцілавічы
Лагойскага раёна.

# Што ж мы ___ гарантуем ?

(Пачатак на стар. 5).

Вадзіцелі ўжо ведаюць, што за знешняй рэспектабельнасцю хаваецца вялікая небяспека. Усе гарантыі засталіся там, дзе яе эксплуатавалі ў нармальным выглядзе. А нас, як быццам, яшчэ мала навучылі аварыі, калі загінуў П. М. Машэраў або патануў «Адмірал Нахімаў» (дарэчы, спісаны ўжо тады па акце). Пры такой палітыцы мы ў самы кароткі час паставім рэкорд аварыйнасці на душу насельніцтва ў рэспубліцы. Сёння прыкладна пяць аўтамабіляў з сотні — замежныя, прычым новых вельмі мала. Абслугоўванне іх не наладжана, хуткасныя магчымасці нашмат вышэй за нашы. Вось і ўявіце сабе магістраль, дзе ўсе гэтыя «опелі», «бенцы», «аудзі», «таёты» і іншыя імкнуцца «паказаць сябе». Інспектару ДАІ нават дагнаць іх няма на чым. Можа, зняць льготы на імпарт старой тэхнікі? Сваёй старызнай мы ўжо запасліся. Куды болей?

Нам уяўляецца мэтазгодным правяраць старую тэхніку два разы на год і выдаваць асаблівыя нумарныя знакі, напрыклад, чырвоныя. Вадзіцелі такіх машын могуць карыстацца імі ў межах сваёй гаспадаркі і не маюць права выязджаць на вялікія магістралі. Акрамя аўтамабільных дарог, ёсць яшчэ заводы, фабрыкі, фермы і калгасныя двары. Існуючая сістэма тэхнікі бяспекі ўжо недастатковая. Трэба падумаць, як зрабіць яе цэнтралізаванай па тыпу катланагляду. Можа, перапрафіляваць існуючую службу стандартаў, якая цяпер будзе не вельмі патрэбнай?

І апошняе. Вядома, што новыя ідэі ў нас праходзяць з цяжкасцю. Навейшы закон дае такія-сякія правы, штосьці аблягчае. Але дзе ўзяць зыходны капітал для вырабу хоць бы макетнага ўзору? Інавацыйныя банкі патрабуюць кучу папер — гарантыі заводаў і вялікія працэнты. А хто гарантуе, што ўсё пойдзе гладка?

Аўтар гэтага матэрыялу мае вопыт «праштурхоўвання» вынаходніцтва на працягу дзесяці гадоў. Прычым, заяўленую прадукцыю набывалі ў ФРГ за золата. Тармазілі пару гадоў выраб простага цыліндра-дазатара. Гэта ў былым Мінстанкапроме. Пасля гэтага можна шмат пісаць пра малую аддачу нашых вынаходніцтваў. Але падумайце: каму яны патрэбны сёння? Пакуль што нікому.

Той, хто сумняваецца, можа прапанаваць 6 мільёнаў штогадовай эканоміі таму ж Мінстанкапрому або Асацыяцыі і, гарантую, што не атрымаюць нават адказу. Чыноўнікі змагаюцца за выжыванне, а не за прагрэс. Аналагічнае становішча было ў пасляваеннай Японіі. Практычныя амерыканцы звольнілі да двухсот тысяч чыноўнікаў-самураяў і развязалі ініцыятыву прадпрымальніцтву. Хто пазбавіць нас ад коснай арганізацыі? Толькі мы самі.

Міжнародная арганізацыя па стандартызацыі ІСА і яе спецыялізаваны камітэт па сертыфікацыі (1971 год) лічаць, што надзейнасць вузлоў і машын забяспечвае якасць вырабу і зборкі іх дэталяў. Генеральнае пагадненне аб тарыфах і гандлі прадвызначае правілы і метады выпрабавання якасці машын. Адпаведна нацыянальныя сістэмы сертыфікацыі прадвызначаюць наяўнасць выпрабавальных палігонаў, кадраў, дакументаў, методык. Калі гэта з'явіцца ў нас? Хто выступіць з ініцыятывай і хто будзе фінансаваць? Каму спатрэбіцца арыентацыя на сусветны рынак? Вядома, нам самім. І рабіць гэта трэба як мага хутчэй. Пакуль мы па-ранейшаму робім план і гарантуем толькі колькасць.

І яшчэ. У нашай рэспубліцы вялікі штат вынаходнікаў, рацыяналізатараў, інжынераў і навуковых работнікаў — тых, хто можа ўзняць якасць тэхнікі. Неяк іх трэба аб'яднаць арганізацыйна для творчай работы. Пара стварыць у рэспубліцы сваё патэнтнае ведамства.

Сёння мы бясплатна аддаём у Расію свае новыя ідэі і яшчэ чакаем грошы за іх рэалізацыю. У сваім патэнтным ведамстве можна адабраць прыбытковыя ідэі і рэалізаваць іх. Цяжка нават меркаваць, колькі мы на гэтым губляем. Ёсць спроба арганізаваць клуб уладальнікаў інтэлектуальнай уласнасці, а пры ім камерцыйнае прадпрыемства па прадстаўленні і продажы новых ідэй за мяжу. Незразумела толькі, чаму за гэта не бярэцца ўрад і дзе гарантыя, што новыя ідэі трапяць у чыстыя рукі. А беларусы — людзі даверлівыя.

Колькі праектаў і новых ідэй асела ў архівах Дзяржплана ці Дзяржкамітэта па навуцы і тэхніцы! Мы лаялі адсталасць і коснасць чыноўнікаў царскай Расіі нават у школьных падручніках. У той жа час стварылі такую дзяржаўную сістэму, якая ўвогуле ігнаруе новае. Яшчэ большы абсурд у тым, што дзяржава — асноўны ўласнік — рабіла і сістэматычна прадавала самой сабе загадзя бракаваную прадукцыю. Пры гэтым яна цярпела велізарныя страты, якія раслі па меры росту аб'ёмаў вытворчасці. Больш таго, каб схаваць пралікі, эканоміка была ідэалагізавана наскрозь — усё, маўляў, робіцца ў імя вышэйшых інтарэсаў дзяржавы і светлай будучыні для народа. За гэта мы сёння расплачваемся. Але самая вялікая бяда ў тым, што здольныя інжынеры і навуковыя работнікі ідуць у кааператывы, «на шабашку» і ўвогуле выязджаюць. У навуку няма прытоку свежых сіл.

Магчыма, АН Беларусі неабходна выступіць з ініцыятывай і распрацаваць стратэгію вытворчасці і рэалізацыі нашай тэхнікі. Рынак СНД мы ведаем добра, а над замежжам варта папрацаваць. Тады адразу спатрэбяцца ўсе даследчыя арганізацыі. Нехта ж павінен зарыентавацца ў гэтым хаосе і пачаць дзейнічаць. У нас развальваецца навуковы патэнцыял. Гэта, да ведама кіраўнікоў, тое, чым ганарыцца любая нацыя. А нас гэта нават не турбуе. Пікантна будзе, калі былы прэзідэнт АН РБ пачне арганізоўваць яе філіял у ЗША. Чаго добрага, там могуць пагадзіцца, асабліва ўлічваючы нашу жабрацкую аплату.

Сумна будзе, калі назву суверэннай рэспублікі на свабодным рынку будуць звязваць са словам партачы. Яшчэ горш, калі няякасная тэхніка пачне памнажаць аварыі і катастрофы ўнутры краіны, што сёння ўжо стала рэальнасцю.

**В. ПІЛІПЧЫК,**
**ст. навуковы супрацоўнік**
**Інстытута праблем надзейнасці**
**машын АН Беларусі,**
**кандыдат тэхнічных навук.**

МУЗЫКА

## Дзякуй, «Кантабіле»...

Вядомы беларускі ансамбль старадаўняй музыкі «Кантабіле» вярнуўся з працяглага бенефісу-турнэ па Германіі. Гэтыя гастролі былі арганізаваны Саюзам музычных дзеячаў Беларусі ды Хрысціянскай службай міру Германіі з дабрачыннай мэтай — для ахвяр чарнобыльскай катастрофы. Саюз музычных дзеячаў атрымаў днямі ліст ад кіраўніцтва Хрысціянскай службы міру Германіі, у якім гаворыцца:

«Ад імя Хрысціянскай службы міру і ўсіх, хто ўдзельнічаў у арганізацыі турнэ, перш за ўсё ад імя тых, хто быў шчаслівы слухаць канцэрты нашых сяброў, я дзякую шматкроць і вельмі шчыра за такую магчымасць. Усяго ансамбль падчас свайго знаходжання ў ФРГ даў 9 канцэртаў у рэгіёнах Дармштат, Вецлар і Касель і пры гэтым ахвяраваў заробленыя каля 16 тыс. марак. Гэтыя грошы будуць скарыстаны для набыцця прыбораў, абсталявання, дапаможных матэрыялаў і аснашчэння бальніц у рамках дапамогі «чарнобыльцам» разнастайных арганізацый. Яны накіруюць гэтую дапамогу непасрэдна сваім мясцовым партнёрам. Нашы сябры сваімі канцэртамі прынеслі вялікую радасць многім людзям і выклікалі ў іх захапленне. Многія выказалі жаданне зноў іх паслухаць і зведаць узрушэнне. Асабліва шчырую ўдзячнасць мы выказваем за тое, што музыканты адмовіліся ад ганарараў, і гэта дало магчымасць ахвяраванні перадаць без вылічэнняў (падаткаў) пацярпелым ад радыяцыі дзецям у забруджаных радыяцыяй рэгіёнах.

З найлепшымі пажаданнямі — Фрэд Дорн».

Н. К.

## Пакуты мінскай багемы

А хіба ў Мінску ёсць багема?.. Падумалася: «Ёсць». Інакш чаму столькі шчырых перажыванняў ды спагады выклікаў аднайменны спектакль, пастаўлены опернай студыяй Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі?

Складаная для музычна-тэатральнага ўвасаблення опера Д. Пучыні «Багема», кранальны аповяд пра норавы і праблемы асяроддзя беднай творчай моладзі, пра каханне Мімі й Рудольфа, на дзіва прыдалася да нашай беднай, адно толькі імпэтам ды энтузіязмам падмацаванай, студыйнай сцэны. Выканаўцы роляў галоўных герояў — ці не равеснікі сваіх персанажаў, дарэчы глядзеліся іх сучасная, немудрагелістая, будзённая вопратка, прыкметы ўбогага жытла «юнай багемы». У сціплых умовах залы кансерваторыі прайшлі два спектаклі, у якіх паказаліся і дыпломнікі-вакалісты, і нядаўнія выпускнікі, і студэнты-пачаткоўцы. У ролі Мімі гледачы пабачылі пяцікурсніцу А. Антонаву, а таксама маладую салістку Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі, абаяльную любіміцу публікі Л. Лют. У кожнай дзеі спектакля мяняўся выканаўца ролі Рудольфа, і цяжка было аддаць перавагу камусьці з іх — бясхітраснаму А. Тузлукову, вытанчанаму М. Грыгорчыку ці яркаму пачаткоўцу, уладальніку моцнага тэнара С. Франкоўскаму. Самаадданa працавалі ў спектаклі саліст тэатра музкамедыі В. Шабуня, пяцікурснікі А. Калягаева, А. Гардынец, Л. Фірстаў... Здаецца, гэтак можна пералічыць усіх. Гожа выглядала найскладаная харавая сцэна (хормайстар В. Шавандронаў). Паставілі «Багему» дырыжор аркестра Ю. Новікаў і рэжысёр С. Штэйн.

Шкада, што такая дыхтоўная й шчырая праца можа стацца разовай «навучальнай акцыяй». Уявіце сабе: спектакль пастаўлены на мове арыгінала, і гледачы, невялікія, мякка кажучы, знаўцы італьянскай, усё разумелі і перажывалі ледзь не да слёз за герояў оперы і за маладых артыстаў! Хто б мог паспрыяць, каб студыйная «Багема» паказалася шырэйшаму колу аматараў музычна-тэатральнага мастацтва — тым больш, што пакуты парыжскай багемы знайшлі водгук у сэрцах творчай інтэлігенцыі Мінска?

С. ВЕТКА.

## Адгучалі іспанскія мелодыі

У Мінску прайшлі Дні іспанскай музыкі. У дзвюх філарманічных залах выступалі лаўрэаты міжнародных конкурсаў Х. Хаакім, Г. Эстарэльлас. Дырыжор Э. Мартынез і піяністка Л. Мафіётэ выступілі разам з вядучымі беларускімі калектывамі — Акадэмічным сімфанічным аркестрам ды харавой капэлай імя Р. Шырмы. Дні іспанскай музыкі завяршыліся «Рэквіемам» іспанскага кампазітара К. Бенгерэла, выкананым абодвума гэтымі беларускімі калектывамі пад кіраўніцтвам дырыжора з Германіі Л. Крэмера. Поруч з нашымі выканаўцамі саліраваў і вядомы іспанскі барытон М. Артэга. Аўтар музыкі К. Бенгерэл прысутнічаў на канцэрце.

П. ГАРДЗІЕНКА.

ЛІТКУР'ЕР

## Памяці Мендэле Мойхер-Сфорыма

«Сумны мой напеў у хоры яўрэйскай літаратуры... Мне было... наканавана спусціцца на ніжнюю прыступку яўрэйскага жыцця, у падвалы. Перад маімі вачыма вечна носіцца торба, спрадвечная, вялізная яўрэйская торба... Куды б я ні павярнуўся, усюды мне мроіцца торба; аб чым бы я ні ўздумаў расказаць, мне прыходзіць на розум торба!

Скрозь і ўсюды — торба, яўрэйская торба!»

Так у прадмове да «Фішкі Храмога» гаворыць аб змесце сваёй творчасці заснавальнік рэалізму ў яўрэйскай літаратуры, выдатны пісьменнік, гуманіст, дэмакрат Шолам Якаў Абрамовіч, вядомы шырокім чытацкім колам не толькі ў нас, а і ў многіх краінах свету як Мендэле Мойхер-Сфорым.

Сёлета спаўняецца 75 гадоў з дня смерці пісьменніка. Нам ён асабліва блізкі, паколькі з'яўляецца земляком — нарадзіўся 20 снежня 1836 года ў мястэчку Капыль на Міншчыне.

Дата памяці Мендэле Мойхер-Сфорыма будзе шырока адзначацца ў рэспубліцы. З гэтай нагоды для арганізацыі і каардынацыі шматлікіх юбілейных мерапрыемстваў створаны аргкамітэт. Старшынямі аргкамітэта з'яўляюцца вядомы беларускі паэт Рыгор Барадулін і старэйшы яўрэйскі пісьменнік Рыгор Рэлес, намеснік— рэферэнт Мінскага гарадскога аб'яднання яўрэйскай культуры Абрам Жаніхоўскі.

На пасяджэнні аргкамітэта зацверджаны план арганізацыйных мерапрыемстваў. З мэтай азнаямлення шырокай грамадскасці з жыццём і творчай дзейнасцю Мендэле Мойхер-Сфорыма прадугледжаны выставы яго твораў у бібліятэках, публікацыя матэрыялаў аб ім у перыядычным друку, правядзенне цыкла лекцый, гутарак і літаратурных чытанняў на тэму «Мендэле Мойхер-Сфорым — дзядуля яўрэйскай літаратуры».

Прадугледжваецца падрыхтоўка ў адным з тэатраў рэспублікі спектакля па творах пісьменніка. Вырашаецца пытанне аб адкрыцці на радзіме яго, у Капылі, мемарыяльнай дошкі. У завяршаючай стадыі юбілейных мерапрыемстваў будзе праведзены ў Мінску літаратурны вечар, прысвечаны творчасці класіка яўрэйскай літаратуры.

Б. ПЕРНІКАЎ,
сакратар аргкамітэта.

## Пісаў бацька, пісаў я...

Сапраўды, як у той знакамітай песні, толькі з крыху іншым акцэнтам. Там бацька і сын удвух касілі. Ды, папраўдзе сказаць, не надта і ўдала. А тут бацька і сын кніжку напісалі, ды такую, якую кожны аматар беларускасці з задавальненнем прачытае. Маецца на ўвазе нарыс «Непаўторныя рысы», выпушчаны выдавецтвам «Навука і тэхніка», у якім Аляксей Юр'евіч і Юрый Віктаравіч Хадыкі знаёмяць з самымі выдатнымі старонкамі беларускага мастацтва, асэнсоўваючы так званы сармацкі партрэт, што меў распаўсюджанне ў XVI—XVII стагоддзях як на Беларусі, так і ў Польшчы, Літве, на Украіне. Выданне багата ілюстравана, хоць, праўда, рэпрадукцыі чорна-белыя.

## Агляд юных талентаў

У маладзечанскай гарадской дзіцячай бібліятэцы «Верасок» прайшоў літаратурна-мастацкі конкурс «Юныя таленты». Пераможцы яго Алеся Цімохіна, Альберт Аўчыннікаў, Алег Бязручка былі ўзнагароджаны каштоўнымі падарункамі, некалькі чалавек атрымалі сувеніры.

Юныя паэты і празаікі ў зале райвыканкома сустрэліся з намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесем Пісьмянковым.

М. ФАМІЧ.

ТЭАТР

## Казка — падман, але...



Ундзіна — н. а. Беларусі І. ДУШКЕВІЧ, Палемон — У. ДАЛГІХ.

Фота А. ХАРКОВА.

Не таму, вядома, што прэм'еры балета «Ундзіна» папярэднічаў анонс у «ЛіМе», першыя паказы новага спектакля выклікалі вялікую цікавасць публікі. Проста «балет» і «аншлаг» у жыцці нашага ДАВТа — гэта словы-сінонімы. Ды ўсё ж магла кагосьці завабіць на прэм'еру і канкрэтная інфармацыя ў газеце. Пра тое, што нямецкі кампазітар Х. В. Хенцэ, наш сучаснік, — адна з яркіх постацей у заходнееўрапейскай музыцы. Што ягоную «Ундзіну» (дарэчы, ніводны з тэатраў былога СССР дасюль не звяртаўся да гэтага твора) увасобіў на беларускай сцэне швейцарскі харэограф А. Бернард. Што над спектаклем працаваў вядомы мастак з Пецярбурга В. Окунеў. Што музычнае кіраўніцтва ажыццявіў малады беларускі дырыжор А. Васілеўскі. Што галоўныя партыі танцуюць і вядучыя майстры—І. Душкевіч, Т. Яршова, Н. Дадзішкіліяні, і яркія маладыя салісты — І. Беліч-наў, У. Далгіх, А. Фурман...

Вядомы рамантычны сюжэт пра гісторыю кахання юнака Палемона да загадкавай Ундзіны, дачкі ўладара воднай стыхіі, абяцаў гледачам захапляючае і таямнічае відовішча, яскравыя й кранальныя пачуцці... Няўжо — расчараванне? Вядома, казка засталася казкай. Ды эмацыянальна-жывапіснае, дынамічнае гучанне аркестра (самаадданая і тонкая работа дырыжора А. Васілеўскага) яўна кантрастуе з самім дзеяннем — замаруджаным яго рухам, сумнавата-млявым харэаграфічным малюнкам, спараджаючы сядытады неадэкватную «казачнасці» рэанцыю гледачоў. Але дзякуй выканаўцам, якія, па-акцёрску асэнсоўваючы, напаўняючы жыццём свой танец, здолелі стварыць прэм'ерную атмасферу на спектаклі...

С. Б.

## Наш Тэль стрэліў у Мангейме



«Вільгельм Тэль». Сцэна са спектакля.

З 17 па 25 мая 1992 года ў Мангейме (Германія) праходзіў 8-ы Тыдзень Шылера. Гэта вялікі міжнародны фестываль, які традыцыйна праводзіцца раз у два гады ў Мангеймскім нацыянальным тэатры, які мае непасрэднае дачыненне да Шылера, бо 210 гадоў назад малады Шылер, закончыўшы ваенную школу ў Штутгарце, прыехаў у Мангейм і стаў драматургам гарадскога тэатра. Тут у 1782 годзе прайшла прэм'ера «Разбойнікаў», на гэтай самай сцэне прайшлі прэм'еры ўсіх яго спектакляў.

Нямецкі народ умее захоўваць традыцыі і шанаваць памяць сваіх духоўных настаўнікаў. Таму 18 гадоў назад быў аб'яўлены і праведзены першы міжнародны Шылераўскі фестываль, арганізатарам і натхняльнікам якога стаў генеральны дырэктар Мангеймскага нацыянальнага тэатра, чалавек найвысокіх прафесійных ведаў і вопыту, велізарнага імпэту і абаяльнасці —спадар Арнольд Петэрсан. Ён прыехаў у снежні 1991 года ў Мінск, убачыў спектакль маладзёжнага тэатра Беларусі «Вільгельм Тэль» і запрасіў яго на свой фестываль. Між тым, афіша была ўжо вельмі прадстаўнічай: спектаклі дзесяці тэатраў Германіі і іншых краін—«Змова Фіеска ў Генуі» Веймарскага тэатра, «Каварства і каханне» Вялікага драматычнага тэатра імя М. Горкага з Санкт-Пецярбурга. Ганаверскага ды Штутгарцкага тэатраў, «Вільгельм Тэль» Базельскага тэатра (Швейцарыя), «Разбойнікі» тэатраў з Мюнхена і Мангейма, «Юная дзева з Арлеана» Франкфурцкага тэатра і іншыя пастаноўкі.

«Вільгельм Тэль» нашага Маладзёжнага тэатра стаяў асобна на гэтым фестывалі (бо ўсе спектаклі ўяўлялі сабой вялікія палотны, уражвалі магутнасцю дэкарацый і дзівосным тэхнічным абсталяваннем сцэны, што, вядома ж, аблягчала работу акцёраў). Спектакль Віталя Катавіцкага быў вонкава сціплы, разлічаны толькі на акцёрскія магчымасці — пластычныя, музычныя, моўныя і г. д. І хоць засвоіць прастору не зусім тэатральнай залы, якая была аддадзена для спектакля, было вельмі складана, трэба сказаць, што акцёры спрытна здзейснілі сваю задачу. Іначай не выклікалі б іх гледачы па 5 разоў пасля кожнага спектакля (а іх было чатыры) і не прымушалі зноў і зноў паўтараць фінальную сцэну...

А. МІХАЛЬЦОВА.

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

## Салодкае слова — воля

Кастусь Акула—пісьменнік вядомы ў беларускім замежжы. У яго выйшла некалькі кніг, сярод якіх аповесць «Змагарныя дарогі», раман «Гараватка» ў трох кнігах—«Дзярлівая птушка», «Закрываўленае сонца», «Беларусы, Вас чакае зямля» і іншыя. Як правіла, аўтар прыгадвае перажытае, а таксама закранае асобныя моманты жыцця, як сам ён гаворыць, нацыянальна свядомай беларускай эміграцыі.

Новы раман К. Акулы «За волю», што выпусціла ў Таронта выдавецтва «Пагоня»,—таксама пра гэта. Нездарма пісьменнік зрабіў на творы прысвячэнне: «Беларускаму народнаму фронту ў працы і змаганні за адраджэнне, вольнасць і незалежнасць Беларусі памажы, Божа!» Пра змест новай кнігі можна даведацца з прадмовы «Хто будаваў, а хто фашысціў», падпісанай «Выд. «Пагоня»: «Раман «За волю» дае чытачам пэўны зрэз з жыцця не толькі нацыянальна свядомай беларускай эміграцыі, але і тых варожых сіл, што дзейнічалі сярод яе па загаду каланіяльнага антыбеларускага рэжыму ў акупаванай Маскоўшчынай бацькаўшчыне».

Сапраўды, гэта раман палітычны. Героі яго знаходзяцца як бы па абодва бакі барыкад, якія мы яшчэ нядаўна называлі класавымі. З аднаго боку, тыя, каму пісьменнік сімпатызуе — пісьменнік Антон Шпак, работнік гандлёвай кампаніі Алесь Якімовіч, а з другога тыя, хто дзейнічае, як паказвае К. Акула, кажучы яго словамі, па загаду той жа Масковіі, органаў КДБ—Рыгор Капшун, Ніна Ляскін, Вера Мак і іншыя.

Шкада толькі, што раман «За волю» ў многім нагадвае сабой слабыя ў мастацкіх адносінах, але ідэйна правільныя творы беларускай літаратуры, якіх нямала выходзіла ў застойны час. Яны прамалінейна выкрывалі сусветны імперыялізм, а ў рамане «За волю» таксама прамалінейна выкрываецца «камунізм»...

А. В.

ДРУК

## «Роднае слова», № 5

«...Каб паверылі твайму слову» — штрыхі да творчага партрэта Л. Дайнекі, напісаныя Т. Грамадчанкай, спроба пагаварыць аб шматграннасці таленту пісьменніка, што выявіўся ў паэзіі і прозе. А. Бельскі ў артыкуле «Да глыбіняў жыцця» працягвае гаворку пра маладую беларускую прозу. На гэты раз у полі зроку аўтара творчасць А. Асташонка, А. Глобуса, А. Федарэнкі, А. Казлова. «Свеціць уласным святлом» — Ф. Шумчык асэнсоўвае метафарычныя асаблівасці рамана «Чужая бацькаўшчына» В. Адамчыка. І. Ждановіч гутарыць з мастаком М. Купавам — «Калі прачнулася душа...» У. Содаль запрашае прадоўжыць падарожжа па купалаўскіх мясцінах — «На сёмкавым бровары», «Казіміроўка». Спадчыну З. Даленгі-Хадакоўскага разглядае А. Аксамітаў — «Ля вытокаў беларускага мовазнаўства».

Змястоўнымі атрымаліся традыцыйныя раздзелы «Школа і нацыянальнае адраджэнне», «Методыка і вопыт».

Друкуецца праграма па беларускай літаратуры для 8—9 класаў з паглыбленым вывучэннем беларускай літаратуры.

У раздзеле «Калі закончыўся ўрок» — прыкладны распарадак летніка скаўтаў, беларуска-рускі слоўнік камандаў, некалькі песень.

ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

## Гадавіна газеты

«Брамай неўміручасці» назваў газету «Наша Ніва» пісьменнік Мікола Ермаловіч. І гэта сапраўды так. Адроджанай газеце год, чаму і была прысвечана дабрачынная вечарына, якая адбылася 5 чэрвеня ў Доме літаратара.

Аб цяжкасцях выдання газеты, яе рэдактарскім і аўтарскім актыве і іншых пытаннях вялі размову на вечарыне Іван Чыгрын, Алесь Астраўцоў, Сяржук Харэўскі, Зміцер Колас, Адам Глобус. Двое апошніх, як і Анатоль Сыс, чыталі свае творы.

На вечарыне адбылося прадстаўленне фальклорна-эстраднага гурта «Альтанка» (мастацкі кіраўнік кампазітар У. Казбанаў) і прэм'ера песні барда Ігара Добрага «Вясельная песня» на верш Я. Янішчыц, якую выканаў аўтар.

У канцэртнай праграме прынялі ўдзел —лаўрэат рэспубліканскага конкурсу скрыпачка Лілія Умнова, Цімур Сергяеня (фартэпіяна), гурт «Камелот», барды Алег Атаманаў, Вольга Акуліч, Святлана Мядзведзева, Валерый Пазднякевіч і іншыя.

Больш за тры гадзіны працягвалася вечарына, на якой можна было аформіць падпіску на газету.

П. ГАРДЗІЕНКА.

# ВЫЗВАЛЯЎ ДУХ НАРОДА

(Пачатак на стар. 8—9).

**4. Дыферанцыяльная зямельная рэнта канфіскуецца на карысць Краю шляхам увядзення дыферанцыяльнага зямельнага падатку.**

**5. Перапрадаванне зямлі, як тавару, забараняецца».**

З'езд, як адзначае польская даследчыца А. Бергман, «сцвердзіў, што партыя асноўваецца на сацыялістычнай ідэалогіі і аднагалосна пастанавіў прыняць назву «Беларуская сацыялістычная грамада» (БСГ). У пастанове сказана было таксама, што БСГ лічыць сваёй найбліжэйшай мэтай звяржэнне царызму пры супрацоўніцтве з пралетарыятам усёй Расіі. На руінах царызму — згодна іх погляду — мела ўзнікнуць дэмакратычная дзяржава федэратыўнага тыпу. Для Беларусі прадбачылі аўтаномію з соймам у Вільні».

На з'ездзе быў выбраны Цэнтральны Камітэт партыі, у які ўвайшлі тры члены і два кандыдаты ў члены — Іван і Антон Луцкевічы, Аляксандр Уласаў, Вацлаў Іваноўскі і Аляксандр Бурбіс.

Антон Луцкевіч успамінае, як пасля аднаго з правалаў грамадаўцаў у Мінску ён сам і некаторыя іншыя яго сябры па партыі змушаны былі пераехаць у Вільню, а на іх месца прыехалі іншыя людзі. Сярод іх быў і Аляксандр Уласаў. Яны і «развілі тут шырокую дзейнасць Грамады сярод работнікаў (не кажучы, ведама аб нармальнай і сталай працы на вёсцы). Характэрна, што Грамада дапяла тут таго, чаго дапяць не маглі другія партыі: яна заарганізавала рад прафесіянальных работніцкіх саюзаў — шаўцоў (пераважна на Камароўцы), парыкмахераў, музыкантаў, фармацэўтаў, абыймаючы сваімі ўплывамі работнікаў розных нацыянальнасцяў, нават яўрэяў, ахвотна йшоўшых пад эгідай беларускай партыі».

Сам Аляксандр Мікітавіч, згадваючы тыя часы, пісаў:

**«Бунтавалі, баставалі ўсе студэнты, далучыліся работнікі і сяляне, самадзяржаўе скранулі з гранітнага фундаменту... Дума... Народныя выбарныя...**

**Энергія была ў нас каласальная, энтузіязм маладосці. Вера горы перасоўвае! Менск 1905—06 г. Пасля першых маіх мітынгаў у Радашковічах, дзе я гаварыў страшэнныя штукі: «цара не трэба» і т. п. —я, як кажуць далікатныя местачковыя нашы яўрэі, «трошкі» ўцёк; уначы, зімой, абсаджаным бярозамі старым трактам у Менск. Селянін падганяў каня свайго з пашаны да пасажыра: «Гэй, пралетарый усіх старон... саедзіняйся!» У Менску я з Бурбісам і братамі Луцкевічамі і яшчэ з кучай моладзі арганізавалі забастоўкі шаўцоў, парыкмахераў, музыкантаў... Стацкевіч («Аганёк») друкаваў пракламацыі; пускалі іх па вёсках і т. д.**

**Я не меў кватэры, быў падпольнік. Начаваў кожны дзень у другім месцы, а пару разоў і на скверы. «пільнуючы ўсходу сонца»... Здароўе было жалезнае, энергія маладая! З паўгода так рыскаў, як воўк... Гэта я пішу для характарыстыкі дэкарацыі таго часу».**

Пасля чарговага правалу ў 1907 г., калі Іван і Антон Луцкевічы змушаны былі зноў пайсці ў падполле, канферэнцыю партыі праводзілі ў Докшыцах. На яе прыехаў і Аляксандр Уласаў.

Не парываў сваіх сувязяў з партыяй А. Уласаў і потым, нават калі быў мабілізаваны на фронт.

Сусветная вайна ў 1914 годзе спыніла выданне «Нашай нівы». Немцы акупавалі значную частку Беларусі. 15 верасня 1915 г. яны ўвайшлі ў Вільню. Адна хіба была радасць — 16 студзеня 1916 г. нямецкі фельдмаршал Гіндэнбург аддаў загад, паводле якога беларуская мова аб'яўлялася роўнай з іншымі мовамі, што бытавалі на тэрыторыі краю — яна павінна была мець тыя самыя правы, што і ўсе мовы. Адкрылася каля 300 беларускіх школ, а ў Свіслачы ў Ваўкавыскім раёне была адчынена першая беларуская семінарыя. У Вільні ўзнавіла сваю дзейнасць Беларускае выдавецкае таварыства. Там жа пачаў выходзіць два разы на тыдзень і беларускі часопіс «Гоман». Узніклі і іншыя беларускія арганізацыі — Беларускі клуб, Таварыства дапамогі бедным дзецям «Золак», Навуковае беларускае таварыства, Беларускі вучыцельскі саюз і інш. Дэмабілізаваўшыся, у стварэнні і працы многіх гэтых арганізацый прымаў самы актыўны і непасрэдны ўдзел і Аляксандр Уласаў.

Між тым наспявала рэвалюцыя. 15 сакавіка 1917 г. у Пецярбурзе была выдадзена па-беларуску дэкларацыя, у якой гаварылася, што Расія павінна быць рэарганізавана ў федэратыўную рэспубліку, толькі на гэтым шляху можна вырашыць нацыянальнае пытанне ўсіх народаў, у тым ліку і беларускае. З'езд Беларускай сацыялістычнай грамады, які адбыўся ў Мінску 25 сакавіка 1917 г. выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай федэратыўнай рэспублікі. Тое самае пацвердзіў і з'езд прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацый, які адбыўся 25—27 сакавіка 1917 года ў Мінску. З'езд выбраў нацыянальны камітэт, на чале якога стаў член Дзяржаўнай думы, буйны землеўласнік Р. Скірмунт. Узніклі і іншыя беларускія арганізацыі — Беларускі акруговы камітэт у Пецярбурзе, Беларуская арганізацыя чыгуначнікаў, Камітэт вайсковых беларусаў Паўночнага, Заходняга, Паўднёва-Заходняга і Румынскага франтоў, новыя беларускія партыі — партыя народных сацыялістаў, партыя сацыял-дэмакратаў, партыя сацыял-рэвалюцыянераў і інш. Усе гэтыя арганізацыі і партыі прынялі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы Усебеларускага Кангрэса, які пачаў сваю працу ў Мінску 15 снежня 1917 г. у памяшканні Гарадскога тэатра. На Кангрэс прыехала 1915 дэлегатаў, сярод іх быў і Аляксандр Уласаў.

Кангрэс гэты, як вядома, не даўшы яму разгарнуць працы, на трэці дзень разагналі бальшавікі. Сабраўшыся 18 снежня ў чыгуначным дэпо дэлегаты перадалі напярэдадні выбранай Радзе паўнамоцтвы на далейшае змаганне за ідэалы беларускай дзяржаўнасці. Рада Кангрэса выбрала Выканаўчы камітэт, які паслаў сваю дэлегацыю на мірныя перагаворы, што праходзілі ў Брэсце між Германіяй і Расіяй, але беларуская дэлегацыя не была туды дапушчана. Перагаворы нічога не далі, яны былі спынены, і нямецкія войскі пачалі новае наступленне на ўсход. 19 лютага бальшавікі пакінулі Мінск і Выканаўчы камітэт Усебеларускага кангрэса абвясціў сябе найвышэйшай уладай на Беларусі. Ён звярнуўся да насельніцтва з Устаноўчай граматай «Да народаў Беларусі», у якой гаварылася:

**«Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен здзейсніць сваё права на поўнае самавызначэнне, а нацыянальныя меншасці на нацыянальна-персанальную аўтаномію. Правы нацыі павінны знайсці сваё здзяйсненне шляхам склікання на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойма. Але і да склікання Устаноўчага Сойма ўся ўлада на Беларусі павінна належыць тым народам, якія на ёй жывуць. Выканаўчы К-т Рады першага Усебеларускага З'езда, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасцяў, здзяйсняючы мэты З'езда, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіравання краем і склікання як можна хутчэй Усебеларускага Устаноўчага Сойму на аснове агульнага, простага, роўнага, тайнага і прапарцыянальнага выбарчага права для ўсякага дарослага, не лічачыся з нацыянальнасцю, вызнаннем і родам. Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацвярджэнне заваяванняў рэвалюцыі. будзе здзяйсняць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі, які ад гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі. Персанальны склад Сакратарыяту будзе апублікаваны пасля.**

**Дадзена ў Менску-беларускім 21(8) лютага 1918 г.»**

25 лютага ў Мінск уступілі немцы. Яны не прызналі Народны Сакратарыят Беларусі, у які ўвайшлі многія вядомыя дзеячы беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, аднак Сакратарыят не самараспусціўся, а спрабаваў наладзіць сваю дзейнасць... 9 сакавіка 1918 г. ён выдаў Другую ўстаноўчую грамату, якая пашырала, дапаўняла многія палажэнні ўстаноўчай граматы 21(8) лютага, скіроўвала ўвагу і высілкі беларусаў на стварэнне сваёй дзяржавы. 19 сакавіка таго ж года Выканаўчы Камітэт перайменаваў сябе ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі на сваім пасяджэнні ў ноч з 24 на 25 сакавіка абвясціла Беларусь незалежнай Народнай Рэспублікай. Гэтая падзея была замацавана так званай Трэцяй устаноўчай граматай. «Ад гэтага часу,— гаварылася ў ёй,— Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобе свайго устаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі».

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі імкнулася, каб яе прызнала як мага больш краін. З гэтай мэтай яна звярнулася і з вернападданай тэлеграмай да Імператара Германіі Вільгельма II, але адказу на сваю тэлеграму беларусы так і не атрымалі. У самой жа Радзе пачалася нязгода, якая і прывяла да разладу, яе падзелу. Урэшце, урад рэспублікі ўзначаліў А. Луцкевіч, пакінуўшы за сабою партфель міністра замежных спраў. Ва ўрад А. Луцкевіча ўвайшлі В. Іваноўскі, Т. Грыб, А. Цвікевіч, В. Захарка, А. Смоліч і інш. У склад жа Прэзідыума Рады БНР сярод іншых увайшоў і А. Уласаў.

Гэты ўрад, ды і Прэзідыум аказаўся найбольш дзейсным. Былі пасланы дэлегацыі ў многія краіны свету з растлумачэннямі, што такое Беларусь, якія мэты і задачы ставіць перад сабою тая ўлада, што ўзнікла на яе тэрыторыі.

9 снежня нямецкія войскі пакінулі Мінск, а ўжо 26 снежня ў Смаленску адбыўся з'езд беларусаў-бальшавікоў, які прыняў пастанову аб утварэнні Беларускай Савецкай Рэспублікі, пра што было абвешчана спецыяльным Маніфестам 1 студзеня 1919 г.

Утрымаць Мінск доўга ў сваіх руках бальшавікам не ўдалося, бо пачалося польскае наступленне. Легіёны Я. Пілсудскага ў красавіку 1919 г. занялі Вільню, а потым неўзабаве і Мінск. Пілсудскі многае абяцаў беларусам, калі яны яго падтрымаюць у барацьбе з бальшавіцкай Масквой. Сёй-той яму паверыў, уступіў на шлях супрацоўніцтва. Але былі і тыя, хто не верыў палякам, стаяў на незалежніцкіх пазіцыях. У прэзідыуме Рады, ды і ва ўрадзе А. Луцкевіча пачаўся новы раскол. Як вынік яго быў створаны новы Прэзідыум і новы ўрад. Аляксандр Уласаў гэты раз ні ў Прэзідыум Рады, ні ва ўрад не ўвайшоў.

Між тым, бальшавікі, сабраўшыся з сіламі, адагналі палякаў аж пад Варшаву. I жніўня 1920 г. зноў была абвешчана Беларуская Савецкая Рэспубліка. Перагаворы Савецкай Расіі з Польшчай прывялі да падзелу Беларусі—адна яе частка адышла пад Польшчу, другая стала Савецкай. Гэта было замацавана ў так званым Рыжскім мірным дагаворы 1921 г.

Аляксандр Уласаў не падаўся ў эміграцыю, як гэта зрабілі некаторыя дзеячы беларускага нацыянальна - вызваленчага руху, а застаўся ў Мінску, дзе прымаў актыўны ўдзел у рэдагаванні часопіса «Экономическая жизнь», які выдаваў Савет народнай гаспадаркі.

У канцы 1920 г. ён вярнуўся ў Радашковічы. Там, непадалёку ад гэтага мястэчка, у Аляксандра Мікітавіча быў свой фальварак Мігаўка, які дагэтуль ён здаваў у арэнду — захацеў сам заняцца сельскай гаспадаркай. Але яму гэта не ўдалося — у 1921 г. Аляксандр Уласаў за арганізацыю беларускай гімназіі ў Радашковічах быў арыштаваны палякамі і пасаджаны ў турму.

Па адбыцці пакарання ён на выбарах, што праходзілі ў Польшчы 5 лістапада 1922 г., быў выбраны ў сенат — ніжнюю палату польскага парламента. Разам з ім у польскі сенат былі выбраны яшчэ 2 сенатары-беларусы і 11 паслоў-беларусаў у сойм. Паслы і сенатары ўтварылі Беларускі пасольскі клуб, які стаўся першым парламентарным беларускім прадстаўніцтвам у Польшчы. Беларускі пасольскі клуб, паверыўшы ў прыгожыя абяцанні палякаў аб сужыцці з нацыянальнымі меншасцямі, падтрымаў у выбарах першага прэзідэнта Польскай дзяржавы Габрыэля Нарутовіча, падтрымалі беларускія дэпутаты і адзін з першых польскіх урадаў, які таксама не скупіўся на прыгожыя абяцанні. Але абяцанні польскіх улад так і засталіся абяцаннямі. Ужо урад Ст. Грабскага выдаў гэтак званы «моўны закон», які надта ж абмежаваў магчымасці адкрыцця беларускіх школ. Потым былі прыняты іншыя законы, якія былі накіраваны на паланізацыю краю. Усё лепшае, што было ў нашым народзе, паўстала супраць гэтага. Пачалі стварацца новыя арганізацыі і палітычныя партыі, галоўная мэта якіх была — не скарыцца палякам, весці барацьбу за ўз'яднанне беларусаў у адзіную беларускую сям'ю. Цэнтрам беларускага нацыянальнага руху стала Вільня, дзе быў утвораны Беларускі Нацыянальны Камітэт. У склад яго ўваходзілі многія вядомыя дзеячы беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, у тым ліку і А. Уласаў. А. Уласаў быў адным з арганізатараў і дзейсным працаўніком Таварыства беларускай школы з дня яго ўтварэння. У гэты час Аляксандр Мікітавіч пачаў пісаць свае ўспаміны «З майго жыцця», якія, на жаль, захаваліся не цалкам. Урыўкі з гэтых успамінаў друкаваліся на старонках некаторых заходнебеларускіх выданняў, у прыватнасці, у «Калоссях». У адной з публікацый — «Якуб Колас і «Наша ніва» («Калоссе», № 5, 1936) — А. Уласаў пісаў:

**«Мне ўжо 62 гады. Я належу да пакалення, якое адыйшло ў гісторыю. 90 прац. маіх равеснікаў ужо скончылі зямную кар'еру. Я яшчэ на пару гадоў затрымаўся. Варта было б мне напісаць свой «кінематограф» на працягу якіх 35 гадоў для беларускай моладзі. Можа і ўдасца гэта зрабіць перад смерцю. Малады песняр Жылка (ён ужо на тым свеце!) мне купіў тоўсты сшытак на гэта.**

**Калі я быў студэнтам, то мне прарочылі кар'еру літаратара-гумарыста, а я якраз усё жыццё пісаў на праклятыя палітычныя і эканамічныя тэмы».**

**Выказаў Аляксандр Мікітавіч і сваё запаветнае жаданне ў гэтых успамінах: «Хацелася б мне пабываць яшчэ ў Менску. Калісь старая «Беларуская рэвалюцыйная грамада» ў пракламацыях нясмела пісала ў 1905—6 гг.: «аўтаномія Беларусі з соймам у Вільні альбо Менску». Менск неспадзявана выскачыў першы на сталіцу. Вось я хацеў бы паглядзець на новае там жыццё і «напіцца вады са Свіслачы». Кідаць мае бедныя, заняпалыя і з сумным жыццём народу заходнебеларускія землі я не хачу».**

Магчымасць «паглядзець» на «новае жыццё» і «напіцца вады са Свіслачы», не пакідаючы «бедныя, заняпалыя, з сумным жыццём народу заходнебеларускія землі» Аляксандру Уласаву неўзабаве прадаставілася — 17 верасня 1939 года Чырвоная Армія пачала вызваленчы паход у Заходнюю Беларусь. У ліку першых яна вызваліла Радашкоўшчыну — тыя мясціны, дзе быў фальварак Мігаўка і дзе апошнія гады жыў, адышоўшы ад палітычнай дзейнасці, Аляксандр Уласаў.

Аляксандра Уласава, як «памешчыка», ужо на другі дзень высяляюць з дома, нацыяналізуюць яго фальварак і ўсё, што там было. Аляксандр Мікітавіч з сям'ёй просіцца ў хату да свайго знаёмага Ігната Шнейдэра, наймае ў яго пакойчык. Трэба было шукаць сродкі для існавання. Ён дабіраецца да Маладзечна, знаходзіць рэдакцыю газеты і просіцца, каб яго, старога журналіста-літаратара, узялі на працу. На працу яго не бяруць, кажуць, што трэба даведка з НКУС. Аляксандр Мікітавіч кіруецца ў гэтую ўстанову. Яго прымае нехта маёр Бліноў, які, пагаварыўшы хвілін колькі, робіць вывад:

**«Я, сотрудник опергруппы г. Молодечно, майор Блинов, рассмотрел материал на гр-на Власова Александра Никитича**

**НАШЕЛ**

**Власов Александр Никитич. 1874 г. р., житель фольварка Миговка, Радошковичской волости, Молодеченского уезда, помещик, образование высшее, депутат польского сейма, подозревается в шпионско-провокаторской деятельности, также является переправщиком и активным организатором «громады» на территории Западной Белоруссии. —**

**ПОСТАНОВИЛ**

**Власова Александра Никитича подвергнуть аресту и повести по его делу следствие.**

**Сотрудник опергруппы г. Молодечно майор Блинов».**

На заяве маёра Блінова ў той жа дзень з'яўляецца рэзалюцыя: «Утверждаю — нач. опергруппы Молодечно лейтенант госбезопасности Федоров. 16 октября 1939 г.»

Тады ж, у той жа дзень, быў выпісаны ордэр на яго арышт. Той самы маёр Бліноў

«НАШЕЛ

Власов Александр Никитич обвиняется в шпионско-провокаторской деятельности,

і таму, «принимая во внимание, что обвиняемый может скрыться от следствия и суда

ПОСТАНОВИЛ

Мерой пресечения в отношении Власова Александра Никитича избрать содержание под стражей в изоляторе г. Молодечно».

Вядома, Аляксандр Мікітавіч быў сфатаграфаваны, узяты ў яго адбіткі пальцаў абедзвюх рук. Словам, паступілі, як паступалі з кожным злачынцам — «ворагам народа».

Пачаліся допыты. Як правіла, яны пачыналіся ў адзінаццаць — дванаццаць гадзін ночы і канчаліся пад раніцу.

У пратаколе ад 12 снежня 1939 г. гаворыцца:

**«Я, сотрудник уездного отдела НКВД сержант госбезопасности Золоторенко допросил Власова Александра Никитича, 1874 года рождения, уроженец гор. Вильно (дарэчы, ва ўсіх судовых дакументах фігуруе як месца нараджэння гэты горад, хоць у пашпарце, які захоўваецца ў справе № 56204, ясна напісана, што нарадзіўся Аляксандр Мікітавіч у Вілейцы), житель д. Миговки Радошковичской волости, Молодеченского уезда, образование имеет высшее, окончил политехникум в гор. Риге, владеет немецким и английским языком. Мелкопоместный помещик—владелец 60 десятин земли, судим царским судом на 4 месяца в 1909 году за статью в белорусской газете «Нашей ниве» по поводу роспуска Государственной думы и казни террористов, основатель первой белорусской газеты «Нашей нивы» в 1906 году, с 1905 работал с членом Центрального Комитета Белорусской громады, в 1905 году организовал первую забастовку парабков в Радошковичском районе, хорошо знаком с белорусскими писателями Якубом Колосом, Янкой Купалом, Змитроком Бедулей, последние являлись моими учениками. По моей инициативе Якуб Колос и Змитрок Бядуля были втянуты в редакцию журнал-газеты «Нашей нивы», впослед-**

